*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 5 (1208) 4 ЛЮТАГА 2015 г.

## Францішак Скарына загаварыў на мовах свету

29 студзеня ў Нацыянальнай бібліятэцы адбылася прэзентацыя ўнікальнай кнігі - "Францыск Скарына на мовах народаў свету". Кніга зусім нядаўна пабачыла свет у Выдавецкім доме "Звязда", і адразу ж набыла шырокую вядомасць: увесь наклад кнігі разышоўся яшчэ да прэзентацыі. І гэта не дзіўна: упершыню наш асветнік, першадрукар Францішак Скарына прагучаў на 64 мовах свету, інакш кажучы, упэўнена закрочыў у свет. Складальнікам і ініцыятарам падрыхтоўкі кнігі да выхаду ў свет з'явіўся дырэктар Выдавецкага дома "Звязда" Алесь Карлюкевіч, ён жа з'яўляецца ўкладальнікам і аўтарам пасляслоўя. Ідэя напісаць такую кнігу некалі ўзнікла ў пісьменніцкім асяроддзі, а здзейснілася задума дзякуючы Алесю Карлюкевічу. У пасляслоўі Алесь Карлюкевіч падзякаваў шматлікім замежным сябрам, якія пераклалі прадмову на свае мовы, ён таксама адзначыў, што ў складанні гэтай кнігі шмат дапамог сваімі парадамі, падказкамі паэт Сяргей Панізнік. Кніга змяшчае пераклады прадмовы да кнігі Ф. Скарыны "Юдзіф" на рускай, англійскай, польскай, украінскай, кітайскай, балгарскай, казахскай, арабскай, армянскай, азербайджанскай і іншых мовах свету. Са старажытнабеларускай на сучасную беларускую мову прадмову да кнігі пераклаў вядомы беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ Алесь







ISSN 2073-7033

Разанаў. Вось яго пераклад:

*"Як звяры,*
*што блукаюць у пушчы,*
*ад нараджэння*
*ведаюць сховы свае,*
*як птушкі,*
*што лётаюць у паветры,*
*помняць гнёзды свае,*
*як рыбы,*
*што плаваюць ў моры і ў рэках,*
*чуюць віры свае*
*і як пчолы*
*бароняць вуллі свае -*
*гэтак і людзі*
*да месца, дзе нарадзіліся*
*і ўзгадаваны ў Бозе,*
*вялікую ласку маюць".*

Прадмову да кнігі напісаў малады, але ўжо вядомы ў краіне кнігазнаўца Алесь Суша. Кніга вылучаецца прыемным аздабленнем; у ёй прадстаўлены гравюры Францішка Скарыны, выявы тытульных лістоў скарынінскіх выданняў. Дызайн кнігі распрацаваны Вячаславам Паўлаўцом і Валерыем Рагалевічам. Кніга пабачыла свет дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі РБ. На прэзентацыі гэтага ўнікальнага выдання прысутнічаў шэраг вядомых пісьменнікаў, навуковых дзеячоў, мастакоў Беларусі. Прэзентацыю адкрыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі прафесар Раман Матульскі. Намеснік дырэктара выдавецкага дома "Звязда" Алена Стэльмах расказала аб рабоце над кнігай, прадставіла прысутным аднаго з складальнікаў кнігі Алеся Разанава. З вялікай цікавасцю прысутныя выслухалі выступленні прафесараў, дактароў філалагічных навук Івана Саверчанкі і Адама Мальдзіса. Паважаны Адам Мальдзіс у сваім выступленні закрануў пытанне аб кананізацыі Францішка Скарыны, а таксама адзначыў, што Іван Фёдараў наш, беларускі заснавальнік кнігадрукавання. Адам Іосіфавіч прывёў цікавы гістарычны факт, што калі Скарына паехаў прадаваць свае пераклады Святога Пісання ў Маскву, там іх … спалілі. Выступілі таксама кнігазнаўцы Алесь Суша, Алесь Разанаў, галоўны рэдактар міжнароднага радыё "Беларусь" паэт Навум Гальпяровіч. Да пачатку прэзентацыі жыхар Дзяржыншчыны, малдаванін Васіль Семянюк выявіў, што ў кнізе адсутнічае пераклад на малдаўскую мову. З дапамогай супрацоўнікаў пасольства Рэспублікі Малдова ў Беларусі ён зрабіў пераклад на малдаўскую мову, і выступіў з ім на прэзентацыі. На некалькіх мовах прадмову чыталі і госці, запрошаныя на прэзентацыю. На ўкраінскай мове чытала дарадца пасольства Украіны Марына Гуцала, якая адзначыла, што выхад у свет гэтай кнігі падзея не толькі для Беларусі, але і для ўсяго свету. На англійскай мове прадмову зачытала загадчыца аддзела штотыднёвіка "Літаратуры і мастацтва" Марына Весялуха. Прагучалі выступленні таксама на казахскай і кітайскай мовах. У перапынках паміж выступленнямі ўсіх удзельнікаў прэзентацыі радавалі сваім мастацтвам выхаванцы дзіцячай харэаграфічнай школы № 1, якія ў сваіх прыгожых строях пад старажытную музыку выконвалі паланэзы.

У 2017 годзе наша краіна ўрачыста адзначыць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. Плануецца, што да гэтай круглай даты кніга будзе выдадзена на 100 або на больш мовах. Мы, беларусы (ліцвіны) былі першымі ў справе кнігадрукавання на землях усходніх славян, а па-мастацку выказаныя словы Францішка Скарыны пра любоў да Айчыны павінны стаць духоўным запаветам і для нашчадкаў, гэта значыць для ўсіх нас.

***Лявон Целеш,***
*г. Дзяржынск.*

## 500 гадоў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла Чорнага

**Мікалай РАДЗІВІЛ** (мянушка "Чорны"; 4 лютага 1515, Нясвіж - 29 траўня 1565, Лукішкі пад Вільняй) - дзяржаўны і вайсковы дзяяч Вялікага Княства Літоўскага. Канцлер (з 1550), адначасна ваявода віленскі (з 1551) і намеснік вялікага князя (з 1561).

З алыцка-нясвіжскай лініі роду Радзівілаў гербу "Трубы", сын Яна "Барадатага", кашталяна троцкага, і Ганны з Кішкаў. Адукацыю, імаверна, атрымаў толькі хатнюю. Юнацтва правёў пры каралеўскім двары ў Кракаве, дзе адбылося яго сяброўскае збліжэнне з будучым вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам Аўгустам. Ведаў беларускую, польскую і лацінскую мовы.

Удзельнічаў у вайне з Маскоўскай дзяржавай (1534-1537), на якую разам з братам Янам выставіў 160 коннікаў.

Валодаў вялікімі латыфундыямі на Літве (цэнтар - Нясвіж) і Валыні (Алыка). Найбольшыя яго маёнткі: Клецкае і Давыд-Гарадоцкае княствы (з 1558), Лахва і Нягневічы ў Навагрудскім павеце, Здзітаў у Слонімскім павеце, Дуброва, Шацак і Узда ў Менскім павеце, Геранёны ў Ашмянскім павеце, Дусяты, Свядасць і Бігушкі ў Вількамірскім павеце, Лукішкі каля Вільні, Шыдловец у Польшчы. Быў старастам берасцейскім, ковенскім і шавельскім.



Імклівае службовае ўзнясенне М. Радзівіла пачалося пасля 1544 года, калі на Берасцейскім вальным сойме быў прыняты акт, паводле якога Жыгімонт Стары перадаваў поўную ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім сваіму сыну Жыгімонту Аўгусту. У гэты час М. Радзівіл атрымаў уплывовую пасаду земскага маршалка, якая давала магчымасць часта бываць пры вялікакняскім двары. Ён удзельнічаў у пасольскіх місіях у іншыя дзяржавы.

У 1547 годзе спрыяў шлюбу сваёй стрыечнай сястры Барбары з вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам. У тым жа годзе годзе ў час падарожжа ў Аўгсбургу атрымаў ад імператара Святой Рымскай імперыі Карла V правы на княскі тытул для сябе і асобных прадстаўнікоў свайго роду. З гэтага часу пачаў называцца князем "на Алыцы і Нясвіжы".

У 1549 годзе ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць татараў на Валыні. У 1550 годзе атрымаў пасаду канцлера вялікага літоўскага. Уплыў М. Радзівіла на палітыку вялікакняскага ўраду быў такі значны, што ў 1551 годзе ён здабыў права на захоўванне найважнейшых дзяржаўных актаў у сваім архіве. Асаблівую ўвагу звяртаў на дакументы, якія пацвярджалі даўнія дзяржаўныя прывілеі Вялікага Княства Літоўскага.

У 1561 годзе па ад'ездзе Жыгімонта Аўгуста ў Польшчу стаў намеснікам вялікага князя літоўскага. За ім прайшла судова-адміністрацыйная рэформа, у выніку якой утварыліся шляхецкія станавыя суды і мясцовыя органы самакіравання - соймікі.

Ажаніўся з Альжбетай, дачкой аднаго з найбуйнейшых польскіх мецэнатаў - каронная гетмана Крыштафа Шыдлавецкага. У шлюбе меў сыноў Альбрэхта, Мікалая Крыштафа, Станіслава і Юрыя, а таксама дачок Ганну Магдалену, Крыстыну, Соф'ю Агнешку і Альжбету.

***Вікіпедыя.***




***Канверт, выпушчаны "Белпоштай" да 500-годдзя з дня нараджэння М. Радзівіла Чорнага***

## Кубкі да 25-годдзя ТБМ

Да свайго 25-годдзя ТБМ выпусціла адметныя кубачкі з сімволікай арганізацыі. Пабачыць іх і шэраг іншых цікавостак можна на офісе ТБМ (г. Менск, вул. Румянцава, 13).

***Наш кар.***



*Дзяніс Тушынскі,*
*намеснік старшыні ТБМ*

# Моўнае заканадаўства Уэльса

## *Частка 2. Стандарты ўжывання валійскай мовы*

Другая частка артыкула пазнаёміць чытача з праектам набора стандартаў, якія рэгламентуюць ўжыванне валійскай мовы шэрагам арганізацый. У першай частцы артыкула пазначалася, што гэта першы набор стандартаў, які быў распрацаваны ў лістападзе 2014 года ў адпаведнасці з Законам аб валійскай мове. Дзеянне стандартаў з гэтага набору будзе распаўсюджвацца на ўрад Уэльса, рады графстваў і буйных гарадоў, а таксама адміністрацыі нацыянальных паркаў. Чакаецца, што гэтыя стандарты набудуць моц закона ў 2015 годзе. Разам набор утрымлівае 179 стандартаў.

Падаецца, што знаёмства з валійскімі стандартамі будзе карысным усім, хто жадае прыняць удзел ва ўдасканаленні моўнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Магчыма, што для выпраўлення моўнага дысбалансу ў нашай краіне карысна будзе ўключыць палажэнні пра падобныя стандарты ў праект нашага "Закона аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы". Для тых, хто не чытаў першую частку артыкула, паведамлю, што ТБМ мае намер пачаць працу па арганізацыі збору подпісаў за разгляд адпаведнымі ўладнымі структурамі праекта "Закона аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы". Вы можаце азнаёміцца з праектам "Закона", які размешчаны на сайце ТБМ / Раздзел ЗАКАНАДАЎСТВА / Рэалізацыя законапраектаў (http://tbm-mova.by/laws2.html). Калі ласка, дасылайце свае прапановы па ўдасканаленні законапраекта ў ТБМ.

Напачатку - некалькі агульных тлумачэнняў. У праекце дакумента, які змяшчае стандарты, пазначана, што калі стандарт патрабуе, каб пэўны дакумент друкаваўся на валійскай мове ці каб на ёй аказвалася пэўная паслуга, то гэта не значыць, што вышэйазначанае павінна рабіцца толькі па-валійску альбо ў першую чаргу па-валійску (за выключэннем асобна пазначаных выпадкаў).

Дакумент са спісам стандартаў змяшчае і некаторыя абмежаванні па іх прымяненні.

Рубрыкацыя стандартаў, выкарыстаная ў гэтым артыкуле, а таксама нумарацыя не заўжды супадаюць з тымі, якія выкарыстаны ў самім праекце набору стандартаў.

**1. Стандарты аказання паслуг** павінны спрыяць выкарыстанню валійскай мовы ці быць накіраванымі на тое, каб стаўленне да яе ў працэсе аказання паслуг кліентам было не менш спрыяльным, чым да англійскай.

**1.1. Стандарты, якія маюць дачыненне да карэспандэнцыі арганізацыі**.

Гэтыя стандарты патрабуюць, каб на лісты на валійскай мове арганізацыя адказвала на ёй жа. Перад пачаткам перапіскі арганізацыя павінна запытваць у рэспандэнтаў, ці жадаюць яны, каб з імі ліставаліся па-валійску. Калі так, то арганізацыя павінна ўнесці гэтае жаданне ў базу дадзеных і рабіць адпаведна яму.

У выпадку ліставання з групай людзей, частка з якіх жадае атрымліваць карэспандэнцыю па-англійску, а іншая частка - па валійску, арганізацыя павінна забяспечыць наяўнасць валійскай версіі кожнага ліста. Гэта ж трэба рабіць і калі арганізацыя не мае інфармацыі аб тым, на якой мове жадае ліставацца рэспандэнт. У лістах арганізацыі стаўленне да валійскай мовы павінна быць не менш спрыяльным, чым да англійскай, напрыклад, абедзве моўныя версіі павінны быць падпісаныя.

У саміх лістах і іншых дакументах, якія іх датычацца, арганізацыя мусіць адзначаць, што вітае ажыццяўленне перапіскі на валійскай мове, і што яе выкарыстанне не прывядзе да затрымак у ходзе справы, па якой ідзе перапіска.

**1.2. Стандарты, якія маюць дачыненне да тэлефонных перамоваў арганізацыі**.

Кожны, хто патэлефанаваў на галоўны нумар арганізацыі ці на нумар кол-цэнтра, павінен вітацца па-валійску. Абанента трэба інфармаваць пра тое, што размова з ім пры яго жаданні можа весціся цалкам па-валійску (пры неабходнасці кліент можа быць пераключаны на супрацоўніка, які валодае гэтай мовай). Гэта ж датычыцца і тэлефанаванняў кліентаў на нумары асобных аддзелаў ці асобных супрацоўнікаў арганізацыі. У рэкламных паведамелннях, якія ўтрымліваюць тэлефонныя нумары, мусіць быць пазначана, што размова з кліентам можа весціся цалкам па-валійску. Аўтаадказчык мусіць па-валійску паведамляць, што кліент можа пакінуць паведамленне на валійскай мове. Калі арганізацыя выкарыстоўвае аўтаматызаваную сістэму адказаў, то яна мусіць у поўным аб'ёме дзейнічаць на валійскай мове.

Калі прадстаўнік арганізацыі тэлефануе кліенту ўпершыню, ён павінен задаць пытанне, ці не жадае кліент размаўляць па-валійску, а затым паступіць у адпаведнасці з жаданнем кліента.

**1.3. Стандарты правядзення сустрэч паміж арганізацыяй і запрошаным бокам.**

У запрошанага мусяць запытацца, ці жадае ён, каб сустрэча вялася па-валійску. У выпадку згоды гэта мусіць быць зроблена, прычым без задзейнічання перакладчыка. У запрошанага таксама павінны запытацца, ці жадае ён выступаць на сустрэчы па-валійску. Калі так, то яму паведамляюць, што на сустрэчы пры неабходнасці будзе забяспечаны сінхронны ці паслядоўны пераклад.

Калі на сустрэчу запрошаны больш, чым адзін чалавек, то ў кожнага з іх трэба запытацца, ці жадаюць яны прамаўляць па валійску - сінхронны пераклад мусіць быць забяспечаны, калі па-валійску жадаюць прамаўляць а)10%, б)20%, в)30% запрошаных - варыянт для той ці іншай арганізацыі будзе, верагодна, вызначаць камісар па валійскай мове, які накладае на канкрэтную арганізацыю абавязак адпавядаць пэўным стандартам. Калі ўсе запрошаныя таго жадаюць, пасяджэнне мусіць весціся па-валійску.

Пры гэтым калі прадмет сустрэчы закранае асабістыя інтарэсы аднаго ці некалькіх з запрошаных людзей ці пытанні іх здароўя, то нават калі адзін з іх у адказ на адпаведнае пытанне выкажа жаданне, каб пасяджэнне вялося па-валійску, то гэта і мусіць быць зроблена (тут, праўда, няясна, а як тады быць з тымі, хто гэтага не жадае). Калі прадмет сустрэчы закранае асабістыя інтарэсы аднаго ці некалькіх з запрошаных людзей ці пытанні іх здароўя, то сінхронны ці паслядоўны англа-валійскі і валійска-англійскі пераклад павінен быць забяспечаны, нават калі гэтага жадае толькі адзін з гэтых людзей.

**1.4. Стандарты правядзення сустрэч паміж арганізацыяй і грамадскасцю.**

Грамадскасць павінна быць праінфармаваная, што на сходзе можна прамаўляць па-валійску. Інфармацыйныя матэрыялы пра сход мусяць быць даступнымі на гэтай мове. Калі арганізацыя запрашае выступоўцаў, то яна павінна пацікавіцца ў іх, ці жадаюць яны прамаўляць па-валійску. На сходзе павінен быць забяспечаны сінхронны пераклад, а прысутныя павінны быць пра гэта праінфармаваныя. Усе наяўныя матэрыялы павінны быць на валійскай мове. У інфармацыйных матэрыялах аб мерапрыемстве валійская мова мусіць займаць не менш пачэснае месца, чым англійская.

**1.5. Стандарты, датычныя візуальных матэрыялаў, публікацый і аўдыяматэрыялаў.**

**Рэклама.** Рэкламныя тэксты мусяць быць напісаныя па-валійску. Гэта мова на рэкламных матэрыялах павінна займаць не менш пачэснае месца, чым англійская. Тое самае датычыцца экспанавання матэрыялаў на выставах.

**Дакументы** для знешняга распаўсюду. У стандартах пералічваецца шэраг дакументаў для знешняга распаўсюду, якія павінны быць даступныя на валійскай мове, у прыватнасці, ліцэнзіі і сертыфікаты; парадкі дня і пратаколы пасяджэнняў; планы працы і справаздачы; фармуляры; заявы для прэсы (калі яны робяцца на дзвюх мовах, то гэтыя два тэксты павінны паступіць у друк адначасова) і інш. У любых дзвюхмоўных дакументах валійская мова павінна займаць не менш пачэснае месца, чым англійская, а выкарыстанне валійскай версіі не мусіць прывесці да затрымкі ў працы з дакументам. У англійскай версіі дакумента мусіць быць пазначана, што маецца і валійскамоўная яго версія.

**Інтэрнэт і праграмнае забеспячэнне.** На сайце арганізацыі валійская мова павінна займаць не менш пачэснае месца, чым англійская. Кожная старонка сайта мусіць мець валійскую версію. Тое ж датычыцца кожнай новай старонкі. На кожнай англамоўнай старонцы павінна быць паведамленне аб наяўнасці адпаведнай ёй валійскамоўнай старонкі, а таксама спасылка на яе.

Вышэйзгаданае не азначае, што інфармацыя на валійскай мове мусіць змяшчацца на старонцы, доступ да якой больш лёгкі, чым да старонкі з адпаведнай англамоўнай інфармацыяй.

Як было пазначана вышэй, у дакуменце са стандартамі ёсць некаторыя абмежаванні па іх прымянімасці. Напрыклад, стандарты, якія датычацца інтэрнэт-старонак не распаўсюджваюцца на аўдыё і відэафайлы, загружаныя на сайт, на каментары на форуме, на рэкламу на сайце і на матэрыялы, на якія на сайце маецца толькі спасылка.

Праграмнае забеспячэнне, якое выпускае арганізацыя, павінна мець валійскамоўны інтэрфейс, не менш паўнавартасны за англійскі.

**Шыльды.** Калі арганізацыя вывешвае новую шыльду, увесь тэкст на ёй павінен быць па-валійску. Калі адна і тая ж шыльда змяшчае інфармацыю на валійскай і англійскай мовах, то тэксты мусяць быць размешчаны так, каб валійскі тэкст з большай верагоднасцю прачыталі першым. Тое ж датычыцца і афіцыйных абвестак, якія робіць арганізацыя.

**Гукавыя паведамленні.** Усе абвесткі, што робяцца арганізацыяй праз сістэмы грамадскага абвяшчэння, павінны быць па-валійску. Калі абвестка робіцца на дзвюх мовах, то на валійскай яна робіцца ў першую чаргу.

Патрабаванне ставіцца да валійскай мовы не менш спрыяльна, чым да англійскай датычыцца наступных аспектаў публікацый на мове:

знешняга выгляду (шрыфт, колер);

памеру;

заўважнасці ў месцах грамадскага доступу;

часу публікацыі;

фармату публікацыі;

прысутнасці матэрыялу на інтэрнэт-старонцы ды інш.

**1.6. Стандарты, датычныя візітаў у арганізацыю і прыёму наведвальнікаў.**

Калі арганізацыя плануе, што яе наведае пэўны чалавек, яна мусіць пацікавіцца ў яго, ці жадае ён, каб яго сустракалі з выкарыстаннем валійскай мовы, а затым паступіць у адпаведнасці з гэтым жаданнем. Адміністратар за стойкай прыёму наведвальнікаў не мусіць абавязкова валодаць валійскай мовай, але ў штаце арганізацыі павінен быць чалавек, які падыйдзе да стойкі і будзе размаўляць з наведвальнікам па-валійску, калі наведвальнік выкажа такое жаданне. У месцы прыёму наведвальнікаў павінна быць інфармацыя аб тым, што наведвальнікі могуць размаўляць па-валійску. Супрацоўнікі, якія могуць прыняць наведвальніка на валійскай мове, павінны насіць значок, які пра гэта паведамляе.

**1.7. Стандарты, датычныя асобных катэгорый арганізацый.**

Арганізацыі, якія выдаюць гранты, павінны сярод іншага паведамляць заяўнікам, што ад іх вітаюцца валійскамоўныя заяўкі, а таксама тое, што валійская мова заяўкі ніяк негатыўна не адаб'ецца на яе разглядзе. Падобныя правілы распаўсюджваюцца і на арганізацыі, што праводзяць тэндэры.

**1.8. Стандарты, датычныя распаўсюду інфармацыі пра валійскамоўныя паслугі.**

Арганізацыя павінна рэкламаваць такія паслугі і рабіць гэта на валійскай мове. Усе дакументы, датычныя аказання паслуг на англійскай мове, павінны змяшчаць паведамленне, што гэтая ж паслуга даступна і па-валійску.

**1.9. Стандарты, датычныя адукацыйных паслуг.**

Любыя адукацыйныя курсы для шырокай грамадскасці павінны праводзіцца на валійскай мове. Пры распрацоўцы будучых адукацыйных курсаў арганізацыя мусіць ацаніць запатрабаванасць іх правядзення на валійскай мове і змясціць вынікі ацэнкі на сваім сайце.

**2. Стандарты вызначэння палітыкі арганізацыі.**

Асоба, якая прымае рашэнне па палітыцы арганізацыі ці пераглядае гэтыя рашэнні, павінна ўлічваць, які ўплыў акажуць гэтыя рашэнні на:

а) магчымасць выкарыстання валійскай мовы іншымі людзьмі;

б) тое, каб стаўленне да валійскай мовы было не менш спрыяльным, чым да англійскай.

Гэтая асоба павінна прадумваць, як прыняць такія рашэнні, каб яны станоўча адбіваліся ці забяспечвалі прагрэс; каб яны не пагаршалі сітуацыі або змяншалі негатыўныя з'явы ў сферах у галіне:

а) магчымасцяў выкарыстання валійскай мовы іншымі людзьмі;

б) стаўлення да валійскай мовы не менш спрыяльна, чым да англійскай.

Наступныя стандарты гэтага раздзела распаўсюджваюць усё вышэйзгаданае на:

- праекты дакументаў па палітыцы арганізацыі,
- палітыку выдачы грантаў,
- правядзенне даследаванняў, якія павінны дапамагчы прыняць рашэнне па палітыцы арганізацыі.

Пад рашэннем па палітыцы арганізацыі маецца на ўвазе любое рашэнне, якое датычыцца выканання арганізацыяй яе функцый і ўключае ў тым ліку рашэнні па змесце заканадаўчых актаў, стратэгіях і планах, змесце праграмных заяў і іншае.

**3. Аперацыянальныя стандарты.**

Гэты блок нормаў датычыцца ўнутранага адміністравання арганізацыі. Арганізацыя мусіць распрацаваць праграму падтрымкі і развіцця выкарыстання мовы ў арганізацыі і зрабіць яе даступнай для супрацоўнікаў.

Пры прыёме на працу ў супрацоўніка мусяць запытацца, на якой мове ён жадае атрымаць бланк дамовы, а потым выдаць бланк у адпаведнасці з гэтым жаданнем. Тое ж датычыцца і мовы ўнутранай карэспандэнцыі наймальніка з супрацоўнікам, напрыклад, пісьмовых даручэнняў.

Інфармацыя, якая даводзіцца да супрацоўнікаў (напрыклад, правілы паводзін на працоўным месцы, правілы налічэння заробкаў), павінна быць на валійскай мове.

Супрацоўнік мае права падаць скаргу на валійскай мове і адказаць на любую скаргу адносна сябе на гэтай мове. Супрацоўнікі павінны быць праінфармаваныя пра гэтае права.

На пасяджэннях дысцыплінарнай камісіі ў супрацоўніка павінны запытаць, ці жадае ён, каб пасяджэнне вялося па-валійску, і паступіць потым у адпаведнасці з яго жаданнем. У супрацоўніка трэба запытаць, ці жадае ён прамаўляць на пасяджэнні па-валійску, і калі так, то на пасяджэнні ў выпадку неабходнасці павінны быць забяспечаны сінхронны пераклад.

**Камп'ютарныя тэхналогіі.** Супрацоўнікі, якія працуюць за камп'ютарамі, мусяць быць забяспечаны праграмамі праверкі арфаграфіі тэкстаў на валійскай мове, а таксама праграмамі з валійскамоўным інтэрфейсам (калі такія версіі праграм існуюць).

Патрабаванні да ўнутранай камп'ютарнай сеткі арганізацыі (інтранэту) аналагічныя патрабаванням да інтэрнэт-старонкі арганізацыі, што даступна для шырокай грамадскасці. Акрамя таго, павінна быць створана старонка(і) з матэрыяламі, якія будуць спрыяць выкарыстанню валійскай мовы супрацоўнікамі і дапамагаць ім у гэтым.

Адукацыя. Арганізацыя павінна ацаніць узровень валодання валійскай мовай супрацоўнікамі. У шэрагу сфер павінна праводзіцца навучанне супрацоўнікаў на валійскай мове (калі яно праводзіцца па-англійску), напрыклад, па пытаннях здароўя і бяспекі, наймання на працу, скаргаў і дысцыплінарных працэдур і інш. Мусяць быць забяспечаны валійскамоўныя трэнінгі па эфектыўным выкарыстанні мовы на сустрэчах, у інтэрв'ю, у сферы скаргаў і дысцыплінарных працэдур.

На працягу працоўнага часу для супрацоўнікаў мусяць праводзяцца пачатковыя курсы мовы, а таксама курсы для менеджараў па выкарыстанні мовы ў сферы адміністравання. Для супрацоўнікаў, якія ўжо валодаюць валійскай на пачатковым узроўні, павінна быць забяспечана магчымасць бясплатна наведваць курсы наступнага ўзроўню.

Арганізацыя павінна забяспечваць правядзенне такіх курсаў мовы, якія даюць уяўленне і пра гісторыю мовы, ролю мовы ў культуры Уэльса; якія тлумачаць неабходнасць адпаведнасці стандартам, а таксама даводзяць, як мову можна выкарыстоўваць на працы.

Арганізацыя павінна забяспечыць, каб супрацоўнікі выкарыстоўвалі ў сваіх подпісах электронных лістоў спецыяльны сімвал, які будзе адзначаць, у якой ступені яны валодаюць мовай. Арганізацыя павінна перакласці кантактную інфармацыю супрацоўнікаў на валійскую мову для выкарыстання яе ў электроннай перапісцы.

**Найманне на працу**. Калі для пэўнай вакантнай пасады важна валоданне валійскай мовай, пра гэта трэба паведамляць у абвестцы аб гэтай вакансіі, і рабіць гэта трэба па-валійску. Кандыдаты павінны заахвочвацца падаваць заявы на валійскай мове (з тэксту няясна, маюцца на ўвазе кандыдаты на любую пасаду ці толькі на тую, дзе важна валоданне валійскай). Матэрыялы для кандыдатаў павінны быць даступныя на валійскай мове. На бланках заяў для кандыдатаў павінна быць спецыяльнае месца, дзе яны паведамяць, ці жадалі б яны, каб інтэрв'ю з імі вялося па-валійску - арганізацыя мусіць паступіць у адпаведнасці з іх жаданнем. Трэба таксама тлумачыць кандыдатам, што на інтэрв'ю пры неабходнасці будзе забяспечаны сінхронны пераклад.

**4, 5. Стандарты спрыяння распаўсюду мовы і Стандарты вядзення ўліку агулам былі разгледжаны ў першай частцы артыкула**.

**Дадатковыя стандарты.** На сайце арганізацыі і ў кожным яе офісе павінна быць даступна наступная інфармацыя:

- спісы стандартаў аказання паслуг, стандартаў вызначэння палітыкі і аперацыянальных стандартаў;
- інфармацыя аб тым, якім чынам будуць разглядацца скаргі грамадзян наконт неадпаведнасці дзейнасці арганізацыі гэтым стандартам;
- план маніторынгу адпаведнасці дзейнасці арганізацыі гэтым стандартам;
- план развіцця і стымулявання аказання паслуг, гарантаваных азначанымі стандартамі;
- штогадовая справаздача аб адпаведнасці дзейнасці арганізацыі прызначаным для яе стандартам (арганізацыя мусіць таксама абвяшчаць аб выхадзе такой справаздачы);
- спісы стандартаў спрыяння распаўсюду мовы і стандартаў вядзення ўліку.

Натуральна, што найэфектыўнейшы спосаб выкарыстаць падобныя стандарты ў нас - гэта замацаваць іх заканадаўча. Але нават калі гэта ідэя не будзе ўвасоблена ў тым ці іншым заканадаўчым акце Рэспублікі Беларусь, яе можна паспрабаваць рэалізаваць і іншым чынам. Напрыклад, можа запусціць грамадскі праект пад назвай кшталту "Маральны кодэкс ужывання беларускай мовы", для якога распрацаваць набор стандартаў. Праект можа мець форму конкурсу, да якога трэба далучыць шэраг камерцыйных і дзяржаўных арганізацый. Арганізацыі будуць спаборнічаць у адпаведнасці іх працы гэтым стандартам. Праект можа доўжыцца, напрыклад, год, па яго выніках ўручаюцца прызы. Далей праект можна паўтараць, далучаючы ўсё большую колькасць арганізацый.

# Валянціне Раманцэвіч - 80

*Сябры Фрунзенскай арганізацыі ТБМ г. Менска, а таксама Сакратарыят ТБМ і рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуюць шаноўную Валянціну Карлаўну, нястомную руплівіцу Таварыства беларускай мовы, з юбілеем!*

*Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цудоўнага настрою. Няхай кожны дзень будзе ў радасць!*

* * *

**Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ** і сёння адзін з самых дзейных і актыўных сяброў ТБМ. Сваё жыццё яна прысвяціла нялёгкай настаўніцкай працы, роднай мове. Была настаўніцай пачатковых класаў, беларускай мовы і літаратуры, метадыстам, загадчыкам кабінета беларускай мовы і літаратуры Менскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў, выкладчыкам сучаснай беларускай мовы і методыкі мовы ў педкаледжы № 1. Яна сябар рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны з 1989 года.

Нарадзілася В.К. Раманцэвіч (Лінкевіч) 3 лютага 1935 года ў в. Лышча, што на Піншчыне. Вёска месцілася на берагах прыгожай рэчкі Вісліца. Першыя ўражанні дзяцінства былі звязаны з гэтай рачулкай, прыгожымі палескімі краявідамі і жыхарамі вёскі. У вайну вёска была спалена фашыстамі. У пасляваенны час Лінкевічы пабудаваліся ў суседняй вёсцы Востраў каля Пагосцкага возера.

Бацька Кароль Адамавіч і мама Алена Фёдараўна аказалі на сваіх дзяцей Валянціну, Зіновія і Лілею вялікі ўплыў, выхавалі іх у павазе да Бога і людзей.

Вучыцца ўжо давялося пасля вайны. У Пагост-Загародскую школу пайшла ў верасні 1944 года. Вучылася лёгка, з ахвотаю. Была ў захапленні ад многіх сваіх настаўнікаў, таму і вырашыла звязаць свой лёс са школай - стаць настаўніцай.

У 1954 годзе пачынаецца яе 50-гадовы педагагічны шлях.

З 1954 па 1959 год яна працуе спачатку важатай, а потым настаўніцай Сташанскай СШ Лагішынскага раёна Брасцейскай вобласці, затым у Навадворскай сямігодцы гэтага ж раёна.

З 1959 па 1961 год вучыцца ў Пінскім педагагічным вучылішчы імя А.С. Пушкіна па спецыяльнасці настаўнік пачатковых класаў. Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці і мастацкай самадзейнасці. Вучылішча заканчвае з адзнакай.

З 1963 года Валянціна Карлаўна жыве і працуе ў Менску, куды пераехала па месцы працы мужа Івана Канстанцінавіча. У Менску да яе прыйшла педагагічная вядомасць. У СШ № 72 Заводскага раёна горада яна выкладае да 1969 года ў пачатковых класах, потым яшчэ шэсць гадоў (1969-1975) навучае дзяцей гэтай жа школы роднай мове і літаратуры. Адначасова (1967-1972) завочна вучыцца на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта Менскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага. Вучылася лёгка, бо мела ўжо значны педагагічны досвед.

Гарадскі аддзел адукацыі заўважыў здольную, таленавітую настаўніцу і прапанаваў ёй узначаліць кабінет беларускай мовы і літаратуры Менскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Тут Валянціна Карлаўна адпрацавала 17 гадоў (1975-1992) да самага выхаду на пенсію. Ёй падабалася працаваць з людзьмі, настаўнікі яе вельмі паважалі за шчырасць, добразычлівасць, камунікабельнасць, многія з іх і зараз згадваюць яе добрым словам.

1985 годзе Міністэрства асветы прысвоіла ёй званне "Выдатнік народнай асветы БССР". У 80-90-ыя гады Валянціна Карлаўна шмат друкуецца на старонках беларускіх педагагічных выданняў: папулярызуе перадавы педагагічны досвед настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры г. Менска, публікуе свае ўласныя распрацоўкі мерапрыемстваў, прысвечаных 500-годдзю Францішка Скарыны, 150-годдзю Кастуся Каліноўскага.

З канца 80-х гадоў у Беларусі пачынаецца новы ўздым нацыянальнага адраджэння, Валянціна Карлаўна шчыра і захоплена падтрымала яго. Яна шмат зрабіла для таго, каб у Менску ўзніклі спачатку беларускамоўныя класы, а пасля і школы. Першай такой школай стала СШ № 108.

Пра ўклад Валянціны Раманцэвіч у методыку выкладання роднай мовы сведчыць дапаможнік "Алімпіяды па беларускай мове" (у суаўтарстве з Я. Лаўрэлем і Ж. Прыймак), выпушчаны ў 1987 годзе ў выдавецтве "Народная асвета".

Разам з лепшымі дочкамі і сынамі Беларусі яна была ля вытокаў нашай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны, удзельнічала ў яго I з'ездзе і ва ўсіх астатніх з'ездах, пастаянна ўваходзіць у рэспубліканскую Раду ТБМ. Яна практычна рухала справу беларусізацыі: распрацавала спецыяльную праграму і па ёй арганізоўвала і вяла курсы беларускай мовы з настаўнікамі, вайскоўцамі.

У 1993 годзе ТБМ імя Ф. Скарыны выдала яе кніжку "Пачаткі роднай мовы" - дапаможнік для ўсіх тых, хто захацеў вывучаць беларускую мову і размаўляць на ёй. Тады, на пачатку 90-х, сістэма курсаў ТБМ па вывучэнні беларускай мовы даволі плённа працавала не толькі ў сталіцы, але і па ўсёй рэспубліцы. На курсы ішлі настаўнікі розных профіляў, інжынерна-тэхнічныя работнікі, супрацоўнікі КДБ, міліцыі, арміі. У дапамогу ім у 1991-1992 гадах газета "Наша слова" амаль паўгода з нумара ў нумар друкавала пачатковы курс вочна-завочнай школы Валянціны Раманцэвіч. Гэтыя публікацыі і ляглі ў аснову цудоўнага дапаможніка "Пачаткі роднай мовы". Наклад кнігі ў 20 000 асобнікаў вельмі хутка разышоўся.



Тады ж, у 1993 годзе ў суаўтарстве з У. Танана, Валянціна Карлаўна падрыхтавала і выдала "Беларускую мову: Дапаможнік для вайскоўцаў". Курс быў разлічаны на 26 заняткаў. Водгукі на гэтую кнігу былі самыя найлепшыя.

А ў 1996 годзе выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" выпускае яшчэ адну кнігу В.К. Раманцэвіч "Русско-белорусский словарь для военных" (у сааўтарстве з М. Крыўко, В. Пулко і С. Танана).

У снежні 1992 года Валянціну Карлаўну запрасілі працаваць выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў педагагічнае вучылішча № 2 (з 1994 года - педагагічны каледж № 1). Тут яшчэ больш расквітнеў яе педагагічны талент. У гэты час навучанне ў каледжы вялося на беларускай мове. У 1994 годзе было адкрыта новае аддзяленне, якое на базе сярэдняй школы рыхтавала настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Валянціна Карлаўна стала вядучым спецыялістам на гэтым аддзяленні: на аснове ўласнага досведу распрацавала праграму па методыках выкладання беларускай мовы, літаратуры, лексічным аналізе тэксту, сучаснай беларускай мове, тэорыі літаратуры.

Нам пашчасціла 10 гадоў працаваць побач з Валянцінай Карлаўнай, быць куратарамі ў паралельных групах на беларускім аддзяленні, зрабіць за гэты час тры выпускі навучэнцаў. Даводзілася амаль штодзень бачыцца з ёю, вучыцца жыццёвай і педагагічнай мудрасці. На ўроках і ў пазакласнай рабоце яна імкнулася фармаваць у будучых настаўнікаў роднай мовы і літаратуры глыбокую павагу да прафесіі, любоў да Бацькаўшчыны, яе гісторыі і культуры, да народных звычаяў і абрадаў, да вывучэння сваіх каранёў. Вялікай арганізацыйнай удачай Валянціны Карлаўны было стварэнне ў каледжы літаратурнага аб'яднання "Маладзічок". Лепшыя творы маладых літаратараў друкаваліся ў "Родным слове", "Першацвеце", "Маладосці", "Вясёлцы", "Раніцы" і іншых выданнях. Рэгулярна выпускаліся альманахі "Маладзічка" - усяго іх выйшла 17.

Стараннямі Валянціны Карлаўны вясной 1996 года ў каледжы была створана суполка ТБМ, у якую на той час уваходзіла звыш 180 сяброў з ліку навучэнцаў і выкладчыкаў. Гэта была самая масавая арганізацыя ТБМ Фрунзенскага раёна горада Менска.

Звыш 20 гадоў яна была сябрам рэдкалегіі часопіса "Роднае слова", прымала актыўны ўдзел у яе паседжаннях, часта друкавалася на старонках гэтага выдання, дзялілася сваім багатым педагагічным досведам з настаўнікамі-беларусаведамі рэспублікі.

Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання часта запрашаў яе ў якасці эксперта падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для школ. Яна рэцэнзавала многія падручнікі і дапаможнікі па беларускай мове і літаратуры.

За час працы ў каледжы з яе ўдзелам прайшлі шматлікія сустрэчы навучэнцаў і выкладчыкаў з пісьменнікамі, навукоўцамі. У нас бывалі Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Кастусь Цвірка, Эрнест Ялугін, Уладзімір Ліпскі, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Содаль, Мікола Маляўка, Уладзімір Арлоў, Леанід Дранько-Майсюк, Эдуард Акулін, Алесь Масарэнка, Леанід Пранчак, Алесь Бадак, Іван Курбека, Ала Канапелька, артыстка Галіна Дзягілева, народны майстар і музыка Уладзімір Пузыня, бард Зміцер Бартосік і многія-многія іншыя творцы. Навучэнцы рэгулярна наведвалі Дом літаратара, Дом дружбы з замежнымі краінамі, літаратурныя музеі Менска, пры гэтым яны часта прымалі актыўны ўдзел у вечарынах, выступалі з чытаннем твораў.

А якія цікавыя экскурсіі па гістарычных і літаратурных мясцінах Беларусі праводзіліся з яе ўдзелам: Строчыцы, Ракуцёўшчына, Акопы, Карпілаўка, Вязынка, Акінчыцы, Смольня, Кушляны, Дудуткі, Полацк, Мір, Нясвіж! А потым пра ўбачанае і пачутае ў гэтых паездках нашы навучэнцы расказвалі на старонках шматтыражнай газеты "Веснік педкаледжа", альманахаў "Маладзічок", "Гісторыя і мы", рэспубліканскіх газет.

З 2004 па 2008 год Валянціна Карлаўна працавала рэдактарам і перакладчыкам у выдавецтве "Народная асвета". За гэты час пераклала на беларускую мову і адрэдагавала больш за 20 падручнікаў па матэматыцы, фізіцы, хіміі, гісторыі, геаграфіі.

З гэтага ж 2004 года яна актыўна супрацоўнічае з выдавецкім цэнтрам касцёла св. Сымона і св. Алены, якім кіруе ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Яна рэдагуе і карэкціруе многія рэлігійныя выданні. Гэтая работа вельмі карпатлівая і адказная. З яе ўдзелам выйшлі "Евангелле", кніга У. Завальнюка "Родная мова ў духоўным жыцці Беларусі".

У 2008 годзе з'явіўся бібліяграфічны паказальнік "Беларускія пісьменнікі на старонках часопіса "Роднае слова" (у сааўтарстве з А. Высоцкай, У. Куліковічам, А. Чэчатам). У гэтай кнізе сабрана бібліяграфія матэрыялаў пра 479 беларускіх пісьменнікаў, звесткі пра каторых друкаваліся ў часопісе з 1988 па 2007 год.

Напярэдадні Калядаў 2009 года ў выдавецтве "Народная асвета" пабачыў свет яе "Слоўнік сучаснай беларускай мовы", падрыхтаваны ў суаўтарстве з У.М. Завальнюком і М.Р. Прыгодзічам. Гэтая кніга складзена з улікам новых "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", прынятых 24 чэрвеня 2008 года. У рэестравую частку слоўніка ўключана звыш 20 тысяч слоў.

У 2013 годзе ў выдавецтве Граўцова выйшаў "Энцыклапедычны слоўнік рэлігійнай лексікі беларускай мовы" (аўтары У.М. Завальнюк, М.Р. Прыгодзіч, В.К. Раманцэвіч). Гэты слоўнік з'яўляецца першым у нашай гісторыі ўніверсальным даведнікам па розных кірунках рэлігійнага жыцця Рэспублікі Беларусь. У ім 1649 слоўнікавых артыкулаў.

Валянціна Карлаўна і зараз у актыўным творчым пошуку: яна бадзёрая і жыццярадасная. Радуецца, што яе досвед і веды запатрабаваныя, што можа прыносіць карысць беларускай справе і роднай мове. Яна цвёрда перакананая, што наша краіна будзе еўрапейскай дзяржавай, у якой беларуская мова, нарэшце, стане поўнаўладнай гаспадыняй. У яе цвёрдыя жыццёвыя прынцыпы і глыбокая вера ў Бога.

Пражыўшы амаль паўвека ў сталіцы, яна ў душы засталася ўсё той жа пінчанкай-паляшучкай - мудрай, памяркоўнай, аптымістычна-жыццярадаснай.

Моцнага Вам здароўя, шчасця, новых творчых поспехаў, дарагая Валянціна Карлаўна!

***Лілея Чэчат,***
***Алесь Чэчат.***

# 80 гадоў з дня нараджэння Эрнста Ляўкова



Так сталася, што апошняй прыжыццёвай публікацыяй пра беларускага геолага, краязнаўца, доктара геолага-мінералагічных навук (1981), прафесара (1988), члена - карэспандэнта Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў у Санкт-Пецярбургу (1994), лаўрэата Дзэржпрэміі БССР (1986) - Эрнста Аркадзьевіча Ляўкова была мая ў газеце "Літаратура і мастацтва" - так паведаміла мне яго жонка.

Нарадзіўся Э.А. Ляўкоў у Менску 30.01.1935. і адышоў у ім 13.09.1996 г., толькі ўжо ў перайназваным у 1939 годзе Мінску Скончыў БДУ імя Ул. Леніна ў 1958 г., у 1958-1977 гадах у Беларускім геолага-разведавачным НДІ, з 1968 г. загадчык сектара геолага чацвярцічных адкладаў, з 1974 г. - загадчык рэгіянальнай геалогіі, потым старшы навуковы супрацоўнік Інстытута геалагічных навук. Аўтар каля дзесятка кніг, сярод іх вытрымалі два выданні "В недрах земли белорусской", "Геология антропогена Белоруссии", "Гляцыатэктоніка".

У мяне захавалася яго перапіска, здымкі гэтай выдатнай асобы - сярод іх і падораныя мне паэтам Віктарам Жыбулем, выдадзеныя кнігі з яго аўтографамі. Мною апублікавана пра яго болей за дзесятак артыкулаў, а натхнілі на гэтую справу выдатныя людзі муж і жонка Якуб - Якаў і Тацяна Якубоўскія.

Маё знаёмства, а потым і сяброўства з Эрнстам Аркадзьевічам, пачалося з яго ўнікальнай кнігі "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" (1992).

У маім архіве ёсць шмат адказаў Э. Ляўкова на мае пытанні, з іх на гэты раз працытую толькі адзін:

*"**М.У.** У прэсе было шмат добрых і шчырых рэцэнзій на Вашую кнігу "Маўклівыця сведкі мінуўшчыны". Чым яны ўзрушылі Вас, што спадабалася Вам з водгукаў?*

***Э.Л.** На кніжку былі станоўчыя водгукі ў часопісах "Адукацыя і выхаванне", "Родная прырода". Напрыклад, Ваша рэцэнзія ў газеце "Во славу Родіны" - адна з першых у друку. Вельмі добры водгук напісаў Валерый Дранчук "Полымя", 1992, № 12. стар. 249-251. Мне нават няёмка яго цытаваць? "... чытаецца ўзахлёб, як аповесці Караткевіча...", "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" можна з упэўненасцю аднесці да лепшых кніг 1992 года" і г.д."*

Я поўнасцю згодны з публіцыстам В. Дранчуком, што кніга "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" адна з лепшых кніг нашай краіны. І яшчэ - пра гэтае выданне, над якім ён працаваў да апошняга дня свайго жыцця. Планавалася яе перавыданне - значна папраўленае, пашыранае, дапоўненае, але, як бачна, па смерці аўтара ўсё заглухла.

А як цікава было б прачытаць новыя яго тэмы, пра адну з іх зраблю цытаванне з ліста Э.А. Ляўкова да мяне: *"Адважыўся я напісаць пра тое, як больш паўстагоддзя пазбягалі нашы навукова-папулярныя выданні згадак пра існаваўшы даўней на Беларусі культ фаласа, які ў нас спалучаны з культам каменя і святкаваннем Ярылы - Юрыя".* Тых, хто зацікавіўся гэтым, накіроўваю да газеты "ЛіМ" за 19 траўня 1945 года, там надрукавана аж цэлая старонка пад назвай "Непрыстойная тэма" пад подпісам Ляўкова.

Але, як бачна, здабыткі нябожчыка Э.А. Ляўкова па гісторыі і культуры нашых камянёў-валуноў, ужо ці каму непатрэбныя.

***Міхась Угрынскі,***
*г. Баранавічы.*

# Новая кніга Алега Трусава

Напрыканцы студзеня выйшла чарговая кніга А.Трусава "Кароткая гісторыя архітэктуры Беларусі". Кніга прысвечана беларускай архітэктуры ў яе розных праявах. Упершыню гаворка ідзе пра архітэктуру на тэрыторыі Беларусі ад эпохі палеаліту да канца савецкай эпохі. Акрамя культавага і абарончага дойлідства, аўтар разглядае жыллё вяскоўцаў і гараджан у розныя эпохі, будаўніцтва прадпрыемстваў, дарог, мастоў, каналаў.




Кніга напісана ў папулярнай форме, мае больш за 300 ілюстрацый. Яна будзе карыснай для выкладчыкаў, студэнтаў, экскурсаводаў, краязнаўцаў, настаўнікаў, вучняў, для ўсіх тых, хто любіць нашу Беларусь.

Прэзентацыя кнігі адбудзецца ў сядзібе ТБМ (Румянцава, 13, Менск) 26 лютага (чацвер). Пачатак у 18.30 .

# Як Мінфін развівае беларускую мову

Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Міністру фінансаў
Рэспублікі Беларусь
Амарыну У.В.
220010, г. Мінск,
вул. Савецкая, 7

Паважаны Уладзімір Віктаравіч!

Згодна Артыкула 2 "Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", "Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Рэспубліка Беларусь праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі".

У сувязі з гэтым мы просім паведаміць нам, якім чынам Ваша міністэрства забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай мовы ў сферы сваёй кампетэнцыі.

Таксама просім паведаміць наступную інфармацыю:

- Колькі пастаноў Вашага міністэрства прынята на беларускай мове ў 2013-2014 гадах.

- Які працэнт дакументаў, пазначаных у "Дзяржаўным рэестры каштоўных папер і дакументаў з пэўнай ступенню абароны, а таксама дакументаў з пэўнай ступенню абароны" мае тэкставае афармленне на беларускай мове.

- Які працэнт бланкаў, у тым ліку бланкаў строгай справаздачнасці, якія выпускаюцца РУП "Выдавецтва "Белбланкавыд" выпускаецца на беларускай мове.

- Ці маецца пераклад Міжнародных стандартаў фінансавай справаздачнасці (МСФС) на беларускую мову.

Мы просім Вас зрабіць беларускамоўную версію сайта вашага міністэрства і напоўніць яе беларускімі версіямі ўсіх дакументаў, якія зараз маюцца на рускай версіі сайта, у тым ліку тэкстамі законапраектаў для абмеркавання, беларускім інтэрфейсам калькулятара эфектыўнай працэнтнай стаўкі, узорамі заяў па ліцэнзіраванні Дэпартамента па каштоўных паперах.

Мы заклікаем Вас паспрыяць з'яўленню матэрыялаў на беларускай мове ў часопісе "Фінансы, улік, аўдыт".

З павагай,
Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МИНИСТЕРСТВО ФИНАНСОВ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны"

Аб выкарыстанні беларускай мовы

У адпаведнасці са зваротам Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ад 27 кастрычніка 2014 г. № 207 Міністэрства фінансаў паведамляе наступнае.

Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы (артыкул 17 Канстытуцыі). У адпаведнасці з пунктам 45 Правілаў падрыхтоўкі праектаў нарматыўных прававых актаў, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 жніўня 2003 г. № 359 "Аб мерах па ўдасканаленні нарматворчай дзейнасці", праекты актаў выкладаюцца на беларускай і (або) рускай мовах. Праект акта, які прадугледжвае ўнясенне змяненняў і (або) дапаўненняў у акт, як правіла, выкладаецца на той дзяржаўнай мове, на якой дадзены акт быў прыняты (выдадзены).

У адпаведнасці з артыкулам 18 Закона Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 2000 г. № 361-3 "Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь" Міністэрства фінансаў прымае (выдае) нарматыўныя прававыя акты на падставе і ў выкананне прынятых актаў большай юрыдычнай сілы. Такім чынам, Міністэрства фінансаў выконвае тыя моўныя патрабаванні да актаў, у рамках якіх прымае свае дакументы.

За 2013-2014 гг. нарматыўныя прававыя акты Міністэрства фінансаў прымаліся на рускай мове.

У лістападзе 2014 г. у Дзяржаўным рэестры бланкаў каштоўных папер і дакументаў з пэўнай ступенню абароны, а таксама дакументаў з пэўнай ступенню абароны зарэгістравана 5066 бланкаў і дакументаў, з іх 520 - на беларускай мове, што складае 10,7 % ад агульнай колькасці зарэгістраваных у Дзяржрэестры бланкаў і дакументаў.

Бланкі ўліку і справаздачнасці, у тым ліку і бланкі строгай справаздачнасці, распрацаваны, зацверджаны і, адпаведна, выпрабляюцца РУП "Выдавецтва" Белбланкавыд" на рускай мове. На беларускай мове азначаная дакументацыя не вырабляецца.

Варта адзначыць, што ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам найменне і тэкставы змест бланка (дакумента) вызначаецца заказчыкам (эмітэнтам).

У адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь ад 12 ліпеня 2013 г. "Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці" Міжнародныя стандарты фінансавай справаздачы (далей - МСФС) уводзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у якасці тэхнічных нарматыўных прававых актаў Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь ва ўстаноўленым імі парадку. Пры ўвядзенні ў дзеянне МСФС вызначаюцца асаблівасці іх прымянення на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

МСФС, уведзеныя ў дзеянне ў паказаным вышэй парадку, падлягаюць афіцыйнаму апублікаванню ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а таксама размяшчэнню на афіцыйным сайце Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь у глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт.

Нарматыўны прававы акт, які ўстанаўлівае парадак ўвядзення ў дзеянне МСФС у Рэспубліцы Беларусь, у цяперашні час не прыняты. Пераклад МСФС на беларускую мову не рабіўся.

Дадаткова звяртаем Вашу ўвагу на захаванне моўных патрабаванняў пры размяшчэнні інфармацыі на афіцыйным інтэрнэт- сайце Міністэрства фінансаў.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 лютага 2010 г. № 60 "Аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт" устаноўлена, што інтэрнэт-сайты дзяржаўных органаў і арганізацый фармуюцца на рускай і (або) беларускай мовах, а пры неабходнасці таксама на адной, або некалькіх замежных мовах.

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29 красавіка 2010 г. № 645 "Аб некаторых пытаннях інтэрнэт-сайтаў дзяржаўных органаў і арганізацый і прызнанні страціўшай сілу пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 11 лютага 2006 № 192", прынятая ў рамках названага рашэння Кіраўніка дзяржавы, у дачыненні да моўных патрабаванняў прадугледжвае ўлічваць патрабаванні аб прадстаўленні інфармацыі на дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь, а пры неабходнасці, таксама на адной або некалькіх замежных мовах.

Дадзенае патрабаванне Мінфінам ўлічваецца пры размяшчэнні інфармацыі на інтэрнэт-сайце і выконваецца ў рамках норм названага рашэння Кіраўніка дзяржавы.

У дачыненні да моўных патрабаванняў да інфармацыі, якая размяшчаецца на інтэрнэт-сайце Мінфіна, у прыватнасці тэкстаў нарматыўных прававых актаў, варта таксама адзначыць, што нарматыўныя прававыя акты размяшчаюцца на мове іх прыняцця (выдання), і размяшчэнне нарматыўных прававых актаў на іншых мовах магчыма толькі пры наяўнасці іх афіцыйнага перакладу на адпаведную мову, зацверджанага адпаведным дзяржаўным органам (службовай асобай) у парадку, устаноўленым для прыняцця (выдання) гэтага акта (арт. 62, Закон Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 2000 г. № 361-3 "Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь").

Акрамя таго, варта адзначыць, што Міністэрствам фінансаў плануецца ў бліжэйшы час стварэнне беларускай версіі інтэрнэт-сайта.

Што датычыцца часопіса "Фінансы, улік, аўдыт", то ён зарэгістраваны (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 998) як выданне, якое можа выдавацца на дзвюх мовах - рускай і беларускай. Пры паступленні ў рэдакцыю матэрыялу на беларускай мове, адпаведна на беларускай мове ён і публікуецца. Таксама ў планах рэдакцыі выпускаць на беларускай мове рубрыку "Гістарычны каляндар".

Міністр фінансаў У.В. Амарын.

## БЯСПЛАТНЫЯ ЗАНЯТКІ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

для вучняў 7 - 9 класаў з вядомымі навукоўцамі і педагогамі!
Арганізацыйны сход - 2 сакавіка (панядзелак) у сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" (вул. Румянцава, 13, ст. метро "Плошча Перамогі").
Пачатак - 17.00.

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лютым

Абраменка Эдуард Якаўлевіч
Амурак Вольга Іванаўна
Андруцэвіч Станіслаў Вячасл.
Ануфрыенка Валянціна
Аскерка Валянціна Валянцін.
Асташонак Людміла
Аўкштулевіч Тамара Яўген.
Аўсеенкава Кацярына Валер.
Ахрамчук Віктар Георгіевіч
Бабічаў Антон Вячаслававіч
Багдановіч Эвеліна Паўлаўна
Багдзевіч А.І.
Баравік Марыя Якаўлеўна
Бардош Іна Анатольеўна
Барысік Мікалай
Бекешка Вікторыя Сямёнаўна
Бельчына Алеся Рыгораўна
Блажэвіч Ірына Уладзіміраўна
Богуш Мікалай
Болбас Вадзім Іванавіч
Бубен Уладзімір
Бублікава Лілея
Бубновіч Іна Іванаўна
Будзянок Аляксей Пятровіч
Бузо Алег Леанідавіч
Бязрукая Аксана Юр'еўна
Бяліста Марына
Бярэзіна Надзея Ўладзімір.
Вабішчэвіч Тацяна Іванаўна
Валочка Святлана
Васючэнка Пятро Васільевіч
Ваўрышук Наталля Юр'еўна
Вашкевіч Марына
Верхачуб Уладзімір Васільевіч
Войткун Галіна Войтэхаўна
Вышадкевіч Наталля Алегаўна
Вярцейка Алесь
Галякевіч Яўген Ціханавіч
Гаравы Леанід Антонавіч
Гарбацэвіч Валеры Аляксанд.
Гарнастай Алена
Гарэлава Ганна
Гарэцкі Іосіф Аляксандравіч
Гільвей Вацлаў
Голуб Аксана Уладзіміраўна
Грыгор'ева Жанна Іосіфаўна
Грынь Сяргей Іванавіч
Грышан Мікола Паўлавіч
Губарэвіч Настасся Уладзімір.
Губарэвіч Юры Іванавіч
Гуцалік Галіна
Давідовіч Аляксандр Анатол.
Даніленка Сяргей
Дземідовіч Вольга Валер'еўна
Дзенісевіч Павел Алегавіч
Дзеружынскі Авяр'ян Авяр.
Дзмітручына Ганна Мікал.
Дзмітрыеў Віктар Аляксандр.
Дзямідка Генадзь Руфінавіч
Добыш Генадзь Канстанцінавіч
Драгун Павел Якаўлевіч
Драздова Марыя Аркадзьеўна
Драка Альбіна
Дубіцкі Віктар Сымонавіч
Емяльянава Аляксандра Вікт.
Жаўняровіч Ганна Дзмітр.
Жук Мікалай
Жукоўская Л. С.
Забаўская Святлана
Засім Тамара
Заяц Генадзь Мікалаевіч
Іваніцкі Павел Яўгенавіч
Ігаценка М.І.
Іжохіна Надзея Іванаўна
Іжохіна Тацяна Мікалаеўна
Калядзінскі Лявон Уладзімір
Калядка Тацяна Рыгораўна
Камеснікові ч Вольга
Камінская Аліна Аляксандр.
Кананові ч Ірына
Канашэнка Рыгор
Канойка Ігар
Каноў Уладзіслаў Васільевіч
Карбановіч Сяргей
Карнеева Алена Віктараўна
Карповіч Лявон Эдвардавіч
Касаржэўскі Віктар Іванавіч
Касцючык Валянціна Міхайл.
Качура Яўген
Кірэеў Антось Мікалаевіч
Кішкурна Ўладзімір Герасім.
Клімовіч Наталля
Клімуць Лада
Клімуць Станіслава
Клімчык Генадзь
Кляшчонак Алена
Ковель Уладзімір
Коласава Лілія Міхайлаўна
Корзан Ала Вікеньцеўна
Краснабаеў Артур Мікалаевіч
Красоўскі Сяргей Уладзімір.
Краўчанка Арцём Аляксандр.
Крук Алена
Крываногава Святлана
Крыванос Алеся
Крывапуст Дзмітры Валер.
Крысюк Людміла
Крэйніна Людміла Міхайлаўна
Кузьмянкова Наталля Алег.
Купрацэвіч Адам Прохаравіч
Курыленка Юлія
Кур'ян Астап Андрэевіч
Кухаронак Аляксандр Дзмітр.
Кухарэнка Настасся
Кучаравенка Паліна Ўладзім.
Кучынскі Віталь Паўлавіч
Лабада Анастасія
Лагодская Ірына
Ладыга Сяргей Паўлавіч
Лазарэвіч Аляксандр
Лашкоўская Рэгіна В.
Леванкова Алёна Аляксееўна
Ліс Тамара
Літаш Вольга
Літвінава Людміла Сямёнаўна
Лопух Тацяна Ўладзіміраўна
Лукашонак Тамара
Лукашэвіч Тамара Георгіеўна
Лукашэвіч Яўген Фёдаравіч
Лыч Леанід Міхайлавіч
Лявончыкава Дз.
Лягуцкі Анатоль
Ляшчынскі Іван Купрыянавіч
Мазынскі Валер Яўгенавіч
Макарэвіч Алесь
Макарэвіч Аляксандр Васіл.
Макрыцкая Ніна Міхайлаўна
Маліноўская Тацяна Рыгор.
Марачкін Ігар Аляксеевіч
Мартынаў Мікола Рыгоравіч
Маслюкова Алена Аляксандр.
Матавілава Кацярына Ігараўна
Матэлёнак Леанід Аляксандр.
Машнюк Тацяна Аляксандр.
Мінько Жанна
Міранові ч Міхаіл
Місуна Раман
Мішчанкова Юлія Анатол.
Мудроў Максім
Мурашка Ігар
Мянькоў Юры Ўладзіміравіч
Мяцельскі Мікалай Міхайл.
Навумовіч Іван Мікалаевіч
Надакунева Ірына
Наскоў Міхаіл Андрэевіч
Нікіценка Тацяна Пятроўна
Нікіцін Віталь
Новікава Яна
Нялепа В.
Падашвялёў Дзмітры Алякс.
Панізоўцаў Сямён Сямёнавіч
Памецька Ніна Казіміраўна
Парашчанка Яўгенія Уладзім.
Парфёнаў Аляксандр Іванавіч
Патоцкая Тамара
Паўкштэла Сюзана Алегаўна
Петрашкевіч Часлава
Петрушкевіч Ала Мікалаеўна
Піўко Юры
Плітко Віктар Васільевіч
Праташчык Людміла Віктар.
Працко Святлана Аляксандр.
Прохарскі Аляксей
Прыгожын Аркадзь Ілліч
Пташнік Ларыса
Пухоўская Тацяна Фёдараўна
Пяткевіч Марына
Пяткевіч Уладзімір Сціпан.
Пятровіч Аксана Іванаўна
Пятроўскі Аляксандр
Ражко Яўген Яўгенавіч
Ражкоў Леанід Мікалаевіч
Райчонак Аляксандр Алегавіч
Ракевіч Мікалай
Раманоўская Вольга Парфір.
Раманцэвіч Валянціна Карл.
Рачко Мікалай
Рудніцкая Яніна
Ружыцкі Павел Аляксандравіч
Русак Андрэй
Рымач Мікалай Мікалаевіч
Рымко Вольга
Рысявец Раіса Рыгораўна
Савасцеева Людміла
Савіцкі Мікалай Іванавіч
Садоўская Яна Францаўна
Сакалова Алена Георгіеўна
Сакалоўскі Віктар Міхайлавіч
Саколка Анастасія Вацлаваўна
Сарока Андрэй Іванавіч
Сахута Яўген Міхайлавіч
Свістун Сяргей
Серада Алеся Сяргееўна
Сідарук Лілея Мікалаеўна
Сіманёнак Людміла Іванаўна
Сіплівеня Жана Сямёнаўна
Стадуб Іван Дзям'янавіч
Старавойтаў Сяргей Мікал.
Старжынскі Андрэй
Стома Анастасія
Страчук Аляксандр Сяргеевіч
Строганаў Вадзім Вячаслав.
Стэпановіч Язэп Міхайлавіч
Сугойдзь-Зубовіч Кацярына
Сучак Міхась
Сцепанішчава Вера Андрэеўна
Сцефановіч Галіна Іванаўна
Сцяпанава Зоя
Сырасек Васіль Іванавіч
Сямашка Сяргей
Сяменас Людміла Францаўна
Сянкевіч Мікалай Іванавіч
Тарэлка Міхаіл Уладзіміравіч
Трубкін Аляксей Анатольевіч
Тулько Ірына
Тулько Кацярына
Туровіч Алесь
Тычына Міхаіл Аляксандравіч
Тэрэз Віктар
Урублеўская Наталля Вікенц
Утохіна Наталля
Ушакоў Сяргей Аляксандравіч
Філюта Ніна Рыгораўна
Хадановіч Яўген
Хадневіч Васіль
Хацкевіч Анатоль Канстанцін.
Хмянчук Марыя Іванаўна
Ходар Аляксандр
Цімохін Леанід Аляксандравіч
Ціткоўскі Ігар Адамавіч
Цішакіна Ірына Пятроўна
Цэдрык Ганна Васільеўна
Цярэнцьеў Зміцер Ігаравіч
Чарнышова Зоя
Чарняўскі Сцяпан
Чыбісаў Мікола
Чылек Ніна Аляксандраўна
Чычкан Фёдар Уладзіміравіч
Шалкевіч Віктар Антонавіч
Шаўчук Аляксандр Мікал.
Шашута Алесь
Швайко Валянціна Рыгораўна
Шпакаў Фелікс
Шундрык Георг
Шчарбакоў Ян Сяргеевіч
Шчасная Марыя
Шырвель Андрэй Раманавіч
Язукевіч Ганна Чаславаўна
Яканюк Данат Лявонавіч
Янушэўскі Віктар Пятровіч
Ярмусік Эдмунд Станіслававіч
Ятусевіч Сяргей Станіслававіч
Яшчэня Ірына
Яшын Дзмітры Іванавіч

# ЯЗЭПУ СТЭПАНОВІЧУ - 60



**Іосіф Міхайлавіч Сцепановіч** (Язэп Стэпановіч, нар. 3 лютага 1955) - беларускі навуковец у галіне геабатанікі і экалогіі і грамадскі дзеяч. Доктар біялагічных навук (2001). Дацэнт (2009). Сябар рэспубліканскай Рады ТБМ.

Нарадзіўся ў вёсцы Лыцавічы Вілейскага раёна Маладзечанскай вобласці (цяпер Вілейскі раён Менскай вобласці) у сям'і Міхаіла Іосіфавіча Сцепановіча і Алены Мікалаеўны Роліч. Продкі па бацькоўскай лініі паходзяць з Вільні (сучасная Літва), дзе ягоны прадзед Пётра Стэпановіч працаваў рэдактарам у адной з друкарняў.

Скончыў Сырмежскую сярэднюю школу (Мядзельскі раён) з пахвальнай граматай (1972), у 1977 - Менскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.М. Горкага, факультэт прыродазнаўства. Дырэктар Вілейскага раённага дома піянераў і школьнікаў (1977). З 1977 па 1979 служыў у шэрагах Савецкай Арміі (курсантам, камандзірам танка, старшыном роты). З 1979 у Інстытуце эксперыментальнай батанікі (ІЭБ) імя В.Ф. Купрэвіча Нацыянальнай АН Беларусі. Прайшоў прыступкі службовай лесвіцы ад лабаранта, інжынера да галоўнага навуковага супрацоўніка і загадчыка лабараторыі. Скончыў аспірантуру (1987) і дактарантуру (1998) пры ІЭБ НАН Беларусі. Стажаваўся ў Батанічным інстытуце імя В.Л. Камарова АН СССР (г. Ленінград, 1986 і 1987) і Батанічным інстытуце Чэшскай акадэміі навук (Пругоніца ля Прагі, 1998). Прайшоў стацыянарныя ландшафтна-экалагічныя курсы пры Батанічным інстытуце і Батанічным садзе Грайфсвальдскага ўніверсітэта імя Э.М. Арндта (Нямеччына, 1998). З 2005 - прафесар кафедры агульнай біялогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, па сумяшчальніцтве - вядучы навуковы супрацоўнік ІЭБ НАН Беларусі.

Удзельнічаў у распрацоўцы і выкананні больш за 40 планавых бюджэтных і дамоўных тэмаў, навуковых праектаў, у т. л. міжнародных і конкурсных, у прыватнасці, праектаў "Сінтаксанамія расліннасці Беларусі" (1994-1995), падтрыманага Міжнародным навуковым фондам (ISF); "Распрацоўка планаў кіравання нізіннымі мезатрофнымі балотамі Беларусі з мэтай захавання біялагічнай разнастайнасці" (1999-2001); "Прыродныя каштоўнасці даліны ракі Буг: стан, пагрозы, захаванне" (1999-2000); пан'еўрапейскага праекта "Ключавыя батанічныя тэрыторыі Беларусі" (2003-2005);"Вярховыя балоты Беларусі" (2004-2005) з удзелам валанцёраў з розных краін свету. З'яўляўся навуковым кіраўніком і адказным выканаўцам дзяржбюджэтных навуковых заданняў: "Вывучыць асноўныя заканамернасці фармавання, дынаміку і кірункі зменаў біяразнастайнасці расліннага покрыва Беларусі, абумоўленыя антрапагеннымі ўздзеяннямі" і "Геабатанічная структура і ацэнка сучаснага стану расліннасці Нацыянальнага парка "Нарачанскі" Дзяржаўнай праграмы фундаментальных даследаванняў "Біялагічныя рэсурсы" (2001-2005); "Падрыхтаваць навуковае (ландшафтна-заабатанічнае і эколага-фітацэнатычнае) абгрунтаванне стварэння біясфернага рэзервата ў Гарадзенскай вобласці ў раёне Аўгустоўскай пушчы" (2004); "Здзяйсненне комплексу мераў па захаванні біялагічнай разнастайнасці расліннага свету ў рэкрэацыйнай зоне Нацыянальнага парка "Нарачанскі" з аптымізацыяй структуры і складу зялёных насадаў" Дзяржаўнай праграмы экалагічнага аздараўлення воз. Нарач на 2005-2008 гг. ды інш.

Навуковыя працы па сінтаксанаміі, экалогіі, ахове раслінных супольніцтваў, іх рацыянальным выкарыстанні і антрапагенным ўздзеянні, прадукцыйнасці надземнай фітамасы, біяхімічным і біягеахімічным складзе травастану і глебаў і інш. Склаў першы прадромус (папярэдні пералік сінтаксонаў) расліннасці Беларусі. Распрацаваў тэхналогію, методыку і разгарнуў сетку маніторынгу лугавой і лугава-балотнай расліннасці краіны. У спісе друкаваных працаў больш за 200 адзінак, з іх 157 навуковых, у т. л. 7 манаграфій, 9 брашураў, 7 мапаў расліннасці, 98 артыкулаў. У практыку народнай гаспадаркі зроблена 39 укараненняў.

У галіне адукацыі распрацаваны беларускамоўныя курсы "Асновы экалогіі", "Асновы экалогіі і радыяцыйная бяспека", "Абарона насельніцтва і радыяцыйная бяспека", "Асновы экалогіі і энергазберажэння", "Ахова навакольнага асяроддзя", "Асновы сучаснага прыродазнаўства", "Экалогія, радыяэкалогія і асновы энергазберажэння" для студэнтаў небіялагічных спецыяльнасцяў дзённага, вячэрняга і завочнага аддзяленняў шэрагу факультэтаў БДзПУ, а таксама электронны Навучальна-метадычны комплекс. У апошнія гады распрацаваў курс "Экалогія Беларусі" па выбары студэнтаў факультэта прыродазнаўства. Пад яго кіраўніцтвам падрыхтаваны і абаронены кандыдацкая і 8 магістарскіх дысертацый. Адрэцэнзаваны больш за 60 падручнікаў і навучальных дапаможнікаў (школьных і для ВНУ) па біялогіі і экалогіі, 15 навуковатэрміналагічных слоўнікаў, 6 манаграфій, дадзены паўтары сотні водгукаў і рэцэнзій на аўтарэфераты дысертацый, навуковыя артыкулы і праекты, зроблены дзясяткі экспертных заключэнняў.

У 1989 стварыў адны з першых у Акадэміі навук суполкі Беларускага народнага фронту і Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны. З 1991 нязменны старшыня Акадэмічнай рады ТБМ, сябар Менскай гарадской і рэспубліканскай радаў, сакратарыяту Таварыства. Старшыня тэрміналагічнай камісіі ТБМ, а таксама старшыня секцыі біялагічнай і сельскагаспадарчай тэрміналогіі Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, сябар секцыі біялогіі экспертнай групы па доследнай праверцы школьных падручнікаў пры Мінадукацыі. Выбіраўся старшынём прафсаюзнай арганізацыі ІЭБ імя В. Ф. Купрэвіча НАН Беларусі. Правёў сходы калектыву Інстытута па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты ВС БССР (1990), на якіх перамогу атрымаў Зянон Пазьняк.

Чалец Навуковай рады і Рады па абароне дысертацый Д.01.38.01 пры ІЭБ імя В. Ф. Купрэвіча НАН Беларусі. Неаднаразова выступаў у якасці эксперта і афіцыйнага апанента пры абароне дысертацый па спецыяльнасцях 03.00.05 "Батаніка" і 03.00.16 "Экалогія".

Узнагароджаны грамадскім медалём Барыса Кіта "За асягненьні ў асветніцтве і навуцы" (2005 г.).

*Вікіпедыя.*

*Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць спадара Язэпа з паважнай датай і зычаць яму сілаў і плёну на ніве працы для Беларусі.*





*Леанід Лыч*

# Усенародны рух за наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай

## (да 25-годдзя Закона “Аб мовах у Беларускай ССР” - 26 студзеня 1990 г.)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

Нарэшце і ў БССР прыйшло да жыцця такое таварыства. З'явілася на свет яно 27 чэрвеня 1989 года. Гэта без перабольшвання знакавая для нас дата, паколькі мы займелі надзвычай патрэбную і сёння добраахвотную грамадскую арганізацыю - Таварыства беларускай мовы, бо роднаму ж слову нашага народа нікольки не палепшылася і на рубяжы 1980 - 1990-х гадоў. Па-ранейшаму ўсе сферы афіцыйнага жыцця абслугоўваліся рускай, а не беларускай мовай, што сур'ёзна пагражала поўнаму адміранню гэтай нацыянальнай святыні. Новай грамадскай арганізацыі цалкам апраўдана прысвоілі імя нашага слыннага першадрукара, асветніка-гуманіста Францішка Скарыны. Непасрэдны ўдзел у яе стварэнні бралі: Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрствы адукацыі і культуры БССР, інстытуты мовазнаўства і літаратуры Акадэміі навук БССР, Дзяржаўны камітэт БССР па друку, Беларускі фонд культуры, Таварыства "Радзіма", Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Нацыянальная тэлерадыёкампанія БССР. Каб і хацеў, дык больш салідных структур для заснавання ТБМ імя Францішка Скарыны не знайшоў бы. Стваралася яно ініцыятыўнымі, заклапочанымі будучыняй народа асобамі не саматужным чынам, а на салідннай дзяржаўнай аснове, не ў вузкім коле адраджэнцаў, а на прадстаўнічым з'ездзе ў менскім Доме літаратара. У апошні дзень працы з'езду абралі рэспубліканскую Раду ТБМ. Узначаліць яе даверылі Народнаму паэту БССР Нілу Гілевічу, яго намеснікамі сталі дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР Аляксандр Падлужны, дацэнт Менскага педінстытута Пётр Садоўскі, адзін з перадавых настаўнікаў менскай школы Яўген Цумараў. Як бачым, у склад кіраўніцтва Рады ТБМ увайшлі ў адначассе як высокай прафесіяналізацыі, так і дастаткова аўтарытэтныя ў беларускім грамадстве асобы. Праз тры месяцы Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіў Таварыства, і яно разгарнула актыўную дзейнасць па вяртанні беларускай мове законнага для яе месца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця рэспублікі. Аўтар гэтых радкоў бясконца ўдзячны лёсу, што ад часу заснавання ТБМ і да 2003 года ўваходзіў у склад яго рады і, мяркую, штосьці карыснае рабіў для беларускай нацыянальнай справы.

Уплыў ТБМ на моўнаадраджэнцкія працэсы значна ўзмацніўся пасля выдання з сакавіка 1990 года яго перыядычнага рабочага органа - газеты "Наша слова", у фінансаванні якой удзельнічала і дзяржава. У асобныя гады газета выходзіла на 12-ці старонках. У першыя гады свайго існавання ТБМ рэгулярна праводзіла рэспубліканскія канферэнцыі па самых актуальных праблемах культурна-моўнага будаўніцтва ў краіне. Аўтарытэт ТБМ неўзабаве так узвысіўся, што яго падраздзяленні пачалі дзейнічаць і па-за межамі нашай Бацькаўшчыны: у Вільні, Маскве, Санкт-Пецярбургу, Рызе, Іркуцку і іншых гарадах. Дзесяцігоддзямі да гэтага і чужыя, і свае нелюдзі так бязлітасна душылі беларускую мову, а тут - на табе - з дапамогай самой дзяржавы збіраюцца ратаваць яе, думаюць, як увесці ў грамадскі ўжытак. Ну і як тут стрымацца, каб не пахваліць Гарбачоўскую перабудову?!

Неаспрэчна, такіх станоўчых з'яў у змаганні за будучыню беларускай мовы не назіралася б, каб да яе тварам не павярнуліся партыйныя і савецкія органы рэспублікі. І як ні дзіўна, найбольш першыя з іх. Заўважу, што для гэтага меліся важкія падставы. Без усялякага сумнення смялей выступаць за ўвод беларускай мовы ў афіцыйнае жыццё дапамагалі прагрэсіўныя погляды на моўнае пытанне раней ужо згаданай XIX Усесаюзнай канферэнцыі. Насуперак волі і жаданням бальшавіцкіх русіфікатараў, якія так зацята шчыравалі ў нашым краі, канферэнцыя, паўтаруся, прызнала неабходным: *"Праяўляць больш клопату аб актыўным функцыяніраванні нацыянальных моў у розных сферах дзяржаўнага, грамадскага і культурнага жыцця"*. Цяпер ужо аніводзін чыноўнік не мог пагражаць нейкімі санкцыямі, калі да яго з такімі прапановамі, патрабаваннямі звярталіся руплiўцы беларускай мовы.

Многіх людзей не пакінуў абыякавымі змест надрукаваных адпаведна ў чэрвені і ліпені 1989 года дакументаў: "План мерапрыемстваў Мінскага гаркама партыі па пашырэнні сферы функцыянавання беларускай мовы, далейшым развіцці нацыянальна-рускага двухмоўя" і "Зварот да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова" (прыняты 27 чэрвеня 1989 г. на Устаноўчым з'ездзе ТБМ). Меркаванні выказваліся самыя розныя і, натуральна, нядобразычлівыя, бо на працягу апошніх дзесяцігоддзяў нацыянальная палітыка КПСС не спрыяла выхаванню ў нярускіх народаў павагі да сваёй культуры і мовы. Але ўсё ж пераважалі станоўчыя выказванні чытачоў датычна адраджэння занядбанага беларускага слова. Характэрна, што ў абарону яго выступалі не толькі прадстаўнікі інтэлігенцыі, але і шараговыя працаўнікі, якіх ад матчынага слова адарвалі пераезд і праца ў рускамоўным горадзе Беларусі. У неабходнасці надання беларускай мове статусу дзяржаўнай мала хто сумняваўся, толькі хацелі, каб такое адбывалася без спеху. Найбольш тыповы для ўсіх неабыякавых на гэтую праблему погляд выказаў рэгуліроўшчык Менскага электрамеханічнага завода У. Краўчанка: *"... пераход да беларускай дзяржаўнай мовы павінен праводзіцца паступова, без рэзкіх скачкоў, вельмі прадумана..."* ("Літаратура і мастацтва". 1989. 1 верасня. С. 4.)

Сродкі масавай інфармацыі, найбольш папяровага фармату, не скупіліся змяшчаць матэрыялы па моўнай праблеме, давалі звесткі і пра дзейнасць ТБМ, што толькі садзейнічала папулярызацыі яго ў шырокіх колах грамадства. Ідэя стварэння такой арганізацыі на прадпрыемствах і ва ўстановах вельмі хутка знайшла сабе шчырых, актыўных прыхільнікаў у асяроддзі Акадэміі навук БССР, г. зн. у той установе, якая адыграла выключна важную ролю ў правядзенні звязаных з міжваеннай беларусізацыяй мерапрыемстваў. Устаноўчая канферэнцыя ТБМ, у працы якой даводзілася ўдзельнічаць і мне, адбылася 26 верасня 1989 года. Яе адкрыў доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун. З дактароў філалагічных навук на ёй выступілі Уладзімір Конан, Адам Мальдзіс, гістарычных - Міхаіл Біч, Міхась Ткачоў. Прысутныя на канферэнцыі падтрымалі раздзелы "Мова" і "Культура" Беларускага народнага фронту "Адраджэньне" і рэспубліканскія праграмы "Родная мова" і "Спадчына". За старшыню акадэмічнай рады ТБМ абралі навуковага супрацоўніка Інстытута кібернетыкі АН БССР кандыдата тэхнічных навук Анатоля Гурыновіча ("Літаратура і мастацтва". 1989. 13 кастрычніка. С. 13.).

У ліку першых была заснавана і актыўна ўключылася ў працу ТБМ імя Ф. Скарыны Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У лістападзе 1989 года з удзелам выкладчыкаў і студэнтаў, прадстаўнікоў навуковай грамадскасці і ў прысутнасці старшыні Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры пісьменніка Івана Чыгрынава адбылася ажыўленая дыскусія на тэму: "Беларуская мова ва ўніверсітэце: расшырэнне сферы выкарыстання". У прысутных асаблівую зацікаўленасць выклікала прапанова ТБМ *"аб адкрыцці беларускамоўных патокаў па ўсіх педагагічных спецыяльнасцях, увядзенні ў абавязковым парадку ўступных экзаменаў па нацыянальнай мове, аб расшырэнні навучальных курсаў беларусазнаўства для студэнтаў нефілалагічных спецыяльнасцей, пераводзе ўніверсітэцкага справаводства на родную мову"* ("Настаўніцкая газета". 1989. 18 лістапада).

Мелася дастаткова падстаў быць задаволеным ходам стварэння сеткі раённых (гарадскіх), першасных арганізацый ТБМ, ад дзейнасці якіх так шмат залежаў ход абмеркавання ўсяго комплексу пытанняў, звязаных з навядзеннем парадку ў моўнай сферы Беларускай ССР. Прыклад паказвала беларуская сталіца, дзе былі сканцэнтраваны асноўныя адраджэнцкія сілы рэспублікі. На зыходзе лістапада 1989 года ва ўсх раёнах Менска функцыянавалі раённыя рады ТБМ імя Ф. Скарыны. З абласцей сваёй актыўнасцю выдзялялася Віцебская вобласць. Тут пры абкаме КПБ была створана спецыяльная ідэалагічная група, якая даволі паспяхова займалася пытаннямі мовы, не гледзячы на ўсю іх складанасць. Перадавым у вобласці па адраджэнні роднай мовы карэннага насельніцтва быў адзін з самых старажытных беларускіх гарадоў Полацк. У канцы лістапада 1989 года тут ужо мелася 17 першасных суполак ТБМ з агульнай колькасцю 234 сяброў у іх. Да самых актыўных, аўтарытэтных ва ўсім горадзе змагароў за мову належаў выкладчык Полацкага педвучылішча, заслужаны настаўнік БССР Мікалай Пятрэнка.

Як заўсёды, з вялікай карысцю для нацыянальнай справы прайшло ў апошнія дні лістапада 1989 года чарговае пасяджэнне рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Адкрыў і вёў яго старшыня рады ТБМ Ніл Гілевіч. Пасяджэнне праходзіла ў Доме літаратара, што сведчыла пра вялікую ўвагу партыйных і савецкіх органаў, грамадскіх арганізацый да праблемы вяртання беларускай мовы ў афіцыйнае жыццё рэспублікі. На тым пасяджэнні была зацверджана сімволіка ТБМ імя Ф. Скарыны, якая ўяўляла сабой эмблему з выявай скарынінскага знака сонца і паўмесяца, а таксама гістарычнага сімвала "Пагоня" ("Літаратура і мастацтва". 1989. 1 снежня. С. 2.).

Шчырых руплiўцаў роднага слова не магло не цешыць, што на час стварэння ТБМ ужо некаторыя з прадстаўнікоў партыйнай, савецкай эліты, у прыватнасці, сакратар Менскага гаркама КПБ Пётр Краўчанка, міністр народнай адукацыі БССР Міхаіл Дзямчук у сваіх публічных выступленнях шырока карысталіся беларускай мовай. Некаторыя з усёй шчырасцю заяўлялі, што не ўводзяць апошнюю ва ўжытак толькі з-за кепскага валодання ёю. Не заўважаць такіх пазітыўных перамен проста было немагчыма. Людзі чакалі, спадзяваліся на лепшыя перамены ў моўнай сферы, пачыналі верыць у сваё этнічнае выратаванне. На вялікую карысць актывізацыі дзейнасці ТБМ пайшла наяўнасць ужо раней зацверджаных урадам адраджэнцкіх праграм "Родная мова" і "Спадчына". Яны разварушылі, павярнулі тварам да ключавых нацыянальных праблем рэспублікі нават многіх з тых, хто да гэтага жыў, у меру сваіх сіл і здольнасцяў працаваў на агідную, шкодную ідэю зближэння і зліцця культур і моваў савецкіх народаў. Сярод усіх саюзных рэспублік на правым фланзе гэтага злачыннага наступу на такія нічым незаменныя духоўныя каштоўнасці бесканкурэнтна знаходзілася, дзякуючы намаганням сваіх партыйных і савецкіх уладаў, Беларуская ССР. Затое цяпер, калі пэўныя палітычныя, ідэалагічныя структуры і шкодзілі беларускаму нацыянальна-адраджэнцкаму руху, дык толькі спакваля, хаваючыся за чыюсьці спіну.

Паверыць у рэальнасць, што нарэшце і нашыя ўлады праявяць належныя клопаты аб роднай мове не ў малой ступені паспрыялі звесткі, што ў канцы кастрычніка 1989 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зарэгістраваў статут ТБМ імя Францішка Скарыны. Больш за тое, "рэкамендаваў выканаўчым камітэтам абласных і Менскага гарадскога савета народных дэпутатаў садзейнічаць Таварыству беларускай мовы ў арганізацыі і рабоце яго рэгіянальных аддзяленняў". І такое садзейнічанне многа дзе назіралася, і галоўнае ў беларускай сталіцы - сапраўдным на той час цэнтры нацыянальна-культурнага Адраджэння. Паспрыяла гэтаму правядзенне ў кастрычніку гарадской устаноўчай канферэнцыі ТБМ імя Францішка Скарыны, у працы якой удзельнічала краса нрацыянальнай эліты. Яна рашуча выказалася *"за наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы БССР"*, за *"недапушчальнасць увядзення агульнадзяржаўнай мовы ў шматнацыянальнай дзяржаве"* (маецца на ўвазе СССР), бо гэта з'яўлялася б *"парушэннем суверэнітэту 14 саюзных рэспублік і шматлікіх аўтаномных утварэнняў; за неадкладнае скасаванне "антыленінскай пастановы СНК і ЦК ВКП(б) 1938 года "Об изучении русского языка в национальных республиках и областях", скіраванай на моўную ўнітарнасць, усталяванне абавязковага агульнадзяржаўнага аднамоўя ў шматнацыянальным СССР без уліку традыцыйных культурна-моўных узаемадачыненняў народаў на ўласных этнічных тэрыторыях"* ("Літаратура і мастацтва". 1989. 3 лістапада. С. 12.).

Як вынікае з вышэйсказанага, размоў вялося нямала пра неабходнасць мяняць даперабудовачныя стэрэатыпы, а вось з прыняццем на дзяржаўным узроўні практычных захадаў адраджэнцкага характару Беларусь недаравальна пазнілася, што толькі спрыяла далейшаму размыванню нацыянальнага патэнцыялу яе жыцця. Існавала рэальная небяспека, што з-за адсутнасці моўнага заканадаўства яшчэ больш ускладніцца развязванне гэтай архізапушчанай праблемы. Адпаведны нарматыўны акт тут быў бы вельмі дарэчы, каб хоць даць людзям нарэшце зразумець: прыйшоў канец варварскай палітыкі ўладаў у дачыненні да беларускай мовы, што зараз ужо яны будуць не нішчыць, а ратаваць яе. Што да прыняцця канкрэтных захадаў, вызначэння тэрмінаў увядзення ў дзеянне моўных артыкулаў закона, усё гэта не страшна было падаць арыентыровачна. Важна, што ў той нялёгкай сітуацыі ў людзей не апускаліся рукі.

Стварэнне і функцыянаванне ўжо ў першыя месяцы жыцця ТБМ імя Францішка Скарыны ў пэўнай ступені паспрыялі абуджэнню ў многіх людзей цікавасці, асабістай адказнасці за лёс беларускай мовы, тым больш што жаданых прыкметных зрухаў з гэтым не назіралася. І тут нічога дзіўнага няма: Беларуссю працягвалі кіраваць многія ледзь не цалкам адарваныя ад яе нацыянальна-культурных традыцый людзі. Ім непараўнальна лягчэй, зручней было рухацца ў бяздонную прорву праз ажыццяўленне крымінальнага характару палітыкі русіфікацыі, чым залечваць прычыненыя ёю беларусам глыбокія, цяжка загойныя раны, займацца нязвыклай нацыястваральнай працай. Несумненна, справы маглі б пайсці куды лепш, каб нейкі нарматыўны акт абавязваў людзей, у першую чаргу чынавенства, прытрымлівацца ў афіцыйным жыцці пэўнага, скіраванага на беларускі нацыянальны інтарэс моўнага рэжыму. Пра прыняцце такіх выгодных для беларускай мовы актаў ішла гаворка ў вузкім коле навукоўцаў, прадстаўнікоў мастацкай, педагагічнай інтэлігенцыі, але вынесці гэта надзённае пытанне на публічнае абмеркаванне ніхто не адважваўся з партыйных і савецкіх органаў. Ужо мінула добрых паўсотні гадоў, як у Канстытуцыі БССР адсутнічаў запіс аб дзяржаўнасці мовы яе тытульных жыхароў. Яны прыцерліся, а многія так і лічылі, што ўсе сферы грамадскай дзейнасці рэспублікі павінны абслугоўвацца рэальна дзяржаўнай у СССР рускай мовай. Гэта ў іншых саюзных рэспубліках з прыходам да жыцця Гарбачоўскай перабудовы ўсё часцей і больш настойліва сталі заяўляць, што неабходна нейкімі законамі абмежаваць панаванне ў іх рускай мовы, бо гэта вядзе да размывання нацыянальных асноў існавання любой нярускай савецкай нацыі і народнасці. У Беларусі пакуль што не адважваліся публічна ўздымаць пытанне пра прыняцце адмысловага закона аб абароне мовы, але пра яе амаль нікольки не палепшанае з утварэннем ТБМ становішча вялася інтэнсіўная гаворка, чаму не пярэчылі ўлады. Ніводная з газет не адводзіла ёй столькі месца, як орган Міністэрства культуры і Праўлення саюза пісьменнікаў БССР "Літаратура і мастацтва" (рэдактар Анатоль Вярцінскі).

*(Працяг у наст. нумары.)*





# 450 год з дня спачыну святога Генадзя Кастрамскога

5 лютага спаўняецца 450 год з дня спачыну праваслаўнага святога Генадзя Кастрамскога - беларуса, які праславіўся за межамі сваёй Бацькаўшчыны.

Звесткі пра жыццё нашага земляка прыводзяцца ў ягоным жыцці, напісаным вучнем святога Аляксеем у 1584 - 1586 гг., і ў *Аповесці пра адшуканне ягоных мошчаў*, складзенай у канцы 1640-х гг. Менавіта з апошняй крыніцы мы ведаем, што родным горадам святога быў Магілёў у Вялікім Княстве Літоўскім, а жыцце называе ягоных бацькоў - нейкага вялікага пана Івана і Алену. Будучы святы нарадзіўся ў пачатку XVI ст. і ў міры меў імя Рыгор. Ён быў з ліку тых рэлігійных геніяў, якія з маленства чуюць пакліканне да аскетычнага, манаскага жыцця і таму сустракаюць моцны супраціў з боку сваіх родных, якія дзейнічаюць згодна з сваімі абывацельскімі поглядамі на жыццё. Рыгор мусіў пакінуць свой дом і сваю сям'ю, і, пераапрануўшыся ў вопратку жабрака, падаўся падарожнічаць па вялікалітоўскіх манастырах. Але хутка быў змушаны пакінуць і Бацькаўшчыну.



Рыгор апынуўся спачатку ў Маскве, а потым у Ноўгарадзе. На поўначы і ўсходзе Наўгародскай зямлі ляжалі маланаселеныя лясныя абшары, якія ў сваёй пустэльнасці нічым не саступалі егіпецкім манаскім цэнтрам: Фіваідзе, Нітрыі і Скіту. Але для таго, каб навучыцца праводзіць манаскае жыццё ў пустэльні неабходны дасведчаны настаўнік. Якраз у той час на поўначы Наўгародскай зямлі ззяў святым жыццём пустэльнік з фінавугорскага народа вепсаў Аляксандр, па месцы подзвігаў названы Свірскім (ад ракі Свір). Рыгор прыйшоў да Аляксандра і прасіўся да яго ў вучні, але той, бачачы маладосць і неспрактыкаванасць Рыгора, выхадца з заможнай сям'і, адмовіў яму ў просьбе. Тым не менш, угледзеўшы шчырасць імкненняў Рыгора, параіў яму звярнуцца да свайго духоўнага сябра Карнілія ў Камельскі манастыр (на Валагодчыне).

Карнілі прыняў Рыгора ў манастыр. Набыўшы пад наглядам Карнілія неабходны аскетычны досвед, Рыгор быў пастрыжаны ў манаства з імем Генадзь. Былы юнак з заможнай сям'і цяпер нароўні з былымі сялянамі рабіў на кухні ў пякарні.

У 1528 г. разам з сваім настаўнікам Карніліем, у пошуках больш пустэльнага месца для аскетычнага жыцця і з-за схільнасці многіх манахаў у манастыры да духоўнага "камфорту", выйшлі адтуль і пасяліліся ў амаль бязлюдным месцы каля ўтоку ракі Кастрамы ў Абнору. На гэтым месцы з цягам часу ўзнік новы манастыр у гонар Перамянення Гасподняга (цяпер у в. Слабада Любімскага р-на Яраслаўскай вобл.). Хутка маскоўскі князь Васіль III вярнуў Карнілія ў стары манастыр, а на новым месцы застаўся Генадзь з сваімі ўжо вучнямі. Заняты клопатам аб манастыры, Генадзь прыйшоў пехатой у Маскву, дзе быў запрошаны ў дом баярына Рамана Юр'евіча Захар'іна - нашчадка беларускага роду Андрэя Кабылы і ў хуткім часе айца новай дынастыі Раманавых. Але ў той час Раман Юр'евіч наўрад ці асмельваўся нават дапусціць у сваю галаву падобную думку. Таму баярскую сям'ю прывялі ў трымценне словы Генадзя пра будучую царскую годнасць іхняй дачкі Настассі. Прароцтва збылося ў 1547 г. калі Настассю ўзяў у жонкі Іван Грозны. Мусіць таму, калі ў царскай сям'і нарадзілася дачка Ганна, кумам быў запрошаны з кастрамскіх чашчобаў манах Генадзь. У падзяку Іван Грозны падтрымаў пустэльны манастыр сваімі граматамі.

Будучы ігуменам манастыра, Генадзь нароўні з іншымі братамі рабіў на кухні, сек дровы і разносіў іх па келлях, капаў студні і сажалкі, пёк прасфоры, а ў больш вольны час пісаў абразы. Да самой смерці святы не аслабляў аскетычнага жыцця, акрамя таго меў на целе жалезныя вярыгі, крыжы і ланцугі (што выявілася пасля смерці), а таксама ўсюды хадзіў пехатой.

Перад смерцю Генадзь прадыктаваў пісцу свой апошні "Наказ і павучанне", у якім акрамя клопату аб патрэбах брацці, заклікаў манастырскіх служкаў шкадаваць сялянаў і не рабіць ім гвалту, а таксама не ўзводзіць паклёпу. Генадзь з самога маленства прысвяціў сябе аскетычнаму жыццю і не паспеў навучыцца грамаце, тым не менш, заклікаў брацію пашыраць манастырскую біблiятэку, разумеючы вялікую карысць пісьменнасці і ведаў.

Генадзь памёр 23 студзеня (па юліянскім календары) 1565 г. і быў пахаваны ў драўляным саборы ў гонар Перамянення Гасподняга. Ён шанаваўся як святы і, верагодна, ужо ў 1680-я гг. была складзена служба яму. У 1644 г. драўляны сабор разабралі для будаўніцтва новага, і 19 жніўня былі адшуканы мошчы святога. У тым жа годзе з дабраславення маскоўскага патрыярха Ёсіфа святога Генадзя пачалі шанаваць па ўсім Маскоўскім патрыярхаце. Хутчэй за ўсё ў XVIII ст., у неспрыяльныя для манаства часы, мошчы святога Генадзя схавалі пад спудам. Манастыр зачынілі саветы ў 1919 г., а ў 1928 г. зачынілі і мураваны сабор, які дагэтуль дзейнічаў як прыходская царква. У 1920 г. савецкія ўлады публічна адкрылі мошчы святога і вывезлі іх у Яраслаўскі музей, дзе з сярэдзіны 1930-х гг. яны лічацца згубленымі. У 1995 г. манастыр пачаў аднаўляцца клопатам архіепіскапа Яраслаўскага Міхея (Хархарава), які, дарэчы, у 1963 - 1969 гг. быў у Беларусі намеснікам жыровіцкага манастыра. Доўгі час імя святога Генадзя чамусьці не ўносілі ў спіс Сабору беларускіх святых. Нарэшце ў 2002 г. гэта адбылося.

*Уладзімір Камінскі.*

# Герб Магілёва на жэтонах









Выдатны пачын Беларускага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання калекцыянераў (старшыня Іосіф Уладзіміравіч Суднік) па выданні серыі памятных манетавідных жэтонаў працягваецца. Напрыканцы мінулага года з'явіўся жэтон, прысвечаны Магілёву. У 2013 годзе Магілёў быў культурнай сталіцай Беларусі.

Жэтон мае дзве разнавіднасці: пад "золата" і пад "срэбра" і радуе бездакорным дызайнам. У гэтым вялікая заслуга мастака В. Калясінскага.

Асноўныя характарыстыкі:
Намінал - 2 белары.
Метал - медна-цынкавы сплаў (68 % і 32%).
Вага - 16,69 г.
Якасць - анцыркулейтэд.
Наклад - па 150 асобнікаў (кожнай разнавіднасці).
Вытворца - Рэспубліка Беларусь, УП "Сэнс".

Гэтыя цудоўныя мініяцюры ў метале, а таксама буклеты да іх выкананы па-беларуску. Набыць жэтоны, прысвечаныя нашай гісторыі, можна ў Беларускім рэспубліканскім грамадскім аб'яднанні калекцыянераў у Палацы культуры чыгуначнікаў па нядзелях (9.00-12.00).

***Алесь Чэчат.***

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Вяргей В. С. - 100 000 р., г. Менск
2. Бамбіза Мікола - 600000 р., г. Менск
3. Ліс Арсень - 50000 р., г. Менск
4. Яніцкая Мая - 100000 р., г. Менск
5. Шкірманкоў Фелікс - 100000 р., г. Слаўгарад
6. Ляўшун Дзяніс - 145000 р., г. Менск
7. Касцюкевіч Зміцер - 100000 р., г. Чэрвень
8. Зылькоў С.П. - 400000 р., г. Гародня
9. Піскуноў Міхась - 50000 р., в. Ламашы, Глыбоцкі р-н.
10. Лабыка Зміцер - 180000 р., г. Менск
11. Прыгожыны Вольга і Аркадзь - 50000 р., г. Масква
12. Руткоўская Антаніна і Яўгенія - 50000 р., г. Менск
13. Розін Дзмітры -200000 р., г. Менск
14. Дунецкі Анатоль - 50000 р., г. Салігорск
15. Прылішч Ірына - 50000 р., г. Менск
16. Цыганкова Таіса - 50000 р., г. Менск
17. Кожух Соня - 50000 р., г. Менск
18. Лазарук Тамара - 50000 р., г. Менск
19. Стэпановіч Язэп - 100000 р., г. Менск
20. Мішкевіч Г. М. - 100000 р., г. Менск
21. Раманюк Тацццяна - 100000 р., г. Менск
22. Ждановіч М. В. - 100000 р., г. Менск
23. Савіч Валер - 100000 р. г. Менск
24. Лягушаў Алег - 100000 р., г. Менск
25. Кушнір Васіль - 60000 р., г. Дзяржынск
26. Кручонак Ігар - 100000 р., г. Менск
27. Панамароў Сяргей - 100000 р., г. Менск
28. Данілюк Віктар - 100000 р., г. Менск
29. Несцераў Віктар - 500000 р., г. Менск
30. Рабека Мікола - 200000 р., г. Менск
31. Гапеева Вольга - 50000 р., г. Менск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанк" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.



Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам
Касір
Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам
Квітанцыя
Касір М.П.
Плацельшчык



№ 5 (1208) 4 ЛЮТАГА 2015 г. Наша слова

# Бенефіс карыфея пастаўскага краязнаўства

23 студзеня у Пастаўскай гімназіі адбылася прэзентацыя другога выдання вучэбнага дапаможніка "Чароўны край - Пастаўшчына", створанага для навучальнага курса "Паставызнаўства".

Аўтар абодвух выданняў - Ігар Пракаповіч - выкладчык геаграфіі, краязнавец, паэт, кіраўнік пастаўскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны. Ідэя перавыдання з'явілася ў загадчыка Пастаўскага РАНА А. Кашырына яшчэ ў пазамінулым годзе, бо першае выданне кнігі І. Пракаповіча аказалася вельмі папулярным у нашым раёне. Але, як заўсёды, пытанне ўзнікла з фінансаваннем. А паколькі ў наш час трэба спадзявацца толькі на ўласныя сілы, то на новую кнігу грошы збіралі ўсім скопам. У канцы кнігі змешчаны спіс з 55 самых розных устаноў, арганізацый і проста прыватных асоб, якія фінансава дапамаглі гэтай кніжцы з'явіцца на свет.

Нарэшце, у канцы мінулага года работа была завершана. І як толькі новенькія кніжкі з'явіліся ў Паставах, адразу ж была арганізавана іх прэзентацыя. На гэта мерапрыемства сабраліся самыя розныя людзі: і тыя, хто дапамагаў у стварэнні кнігі, і тыя, хто проста цікавіцца творчасцю Ігара Пракаповіча, і шмат вучняў, бо Ігар Міхайлавіч вельмі папулярны сярод вучнёўскай сферы ў Паставах.



Спачатку, як заўсёды, была афіцыйная частка: выступіў сам ініцыятар перавыдання кнігі - А. Кашырын - і начальнік аддзела ідэалогіі райвыканкама. А пасля пайшло цікавей. Ігар Пракаповіч пачаў знаёміць гасцей са сваёй новай кнігай. Паглядзець было чаго, бо ў кнігу дадалося рознай новай інфармацыі і ілюстрацый, якія ўсе падзеленыя на 5 тэм і з дадаткамі ў канцы. Усе тэмы расстаўлены ў лагічным парадку: спачатку ідзе геаграфічнае азнаямленне з тэрыторыяй раёна, пасля яго гісторыя і азнаямленне з матэрыяльнай і духоўнай спадчынай рэгіёна. А потым ідзе асаблівая тэма, якая паказвае вучням на тую сувязь, якая існуе паміж кожным з іх і той зямлёй, на якой ён нарадзіўся. І ў апошняй тэме разглядаюцца найбольш значныя і цікавыя населеныя пункты Пастаўшчыны.










Асаблівасць выдання ў тым, што для яго Ігар Пракаповіч распрацаваў не толькі сам вучэбны дапаможнік, але яшчэ адмысловы сшытак па курсу "Паставызнаўства" і шэраг мультымедыйных прэзентацый па ўсіх вышэйназваных тэмах для выкарыстання іх у навучальным працэсе. Усе гэтыя прэзентацыі разам з вялікай колькасцю фотаздымкаў лепшых пастаўскіх фатографаў запісаны на дыск, які ўваходзіць у камплект разам з кнігай і сшыткам. Усё гэта дазваляе максімальна зацікавіць Пастаўскім краем не толькі аматараў, але і вучняў падчас навучальнага працэсу.



Пасля азнаямлення з кнігай гасцей мерапрыемства спачатку пабавілі мяцовыя песенныя таленты, а пасля пачалася самая прыемная частка падзеі з вялікай колькасцю добрых слоў аўтару ад настаўнікаў, вучняў і проста яго сяброў. І, зразумела, падарункі: госці дарылі аўтару, а той у адказ дарыў плён сваёй шматгадовай працы - сапраўдную энцыклапедыю Пастаўшчыны.

*Вадзім Шышко.*

# Выстава памяці Тадэвуша Рэйтана

15 студзеня 2015 года ў нацыянальнай бібліятэцы РБ адбылася выстава, якая была прысвечана памяці Тадэвуша Рэйтана (1740-1780). Мерапрыемства анансавалася газетай "Наша слова". Тадэвуш здзейсніў толькі адзін подзвіг, рэха якога пралунала на ўсім свеце. У 1773 г. пад час надзвычайнага сойму, на які ён быў абраны дэпутатам ад Наваградскага ваяводства ВКЛ, Рэйтан, на чале невялікай па колькасці групы паслоў з беларускіх земляў, выказаў рашучую нязгоду планам зацвердзіць першы падзел Рэчы Паспалітай.

На мерапрыемстве выступалі: Адам Мальдзіс, Леанід Акаловіч, Рыгор Сітніца, Уладзімір Арлоў, Алесь Родзін і Зміцер Юркевіч.

Было адзначана, што сядзіба Рэйтанаў, якой пашанцавала перажыць падзеі XIX -XX стст., у незалежнай Беларусі прыйшла амаль у поўны занепад. Замест мемарыяльнага музея адной з самых значных у нашай гісторыі постацей, там віруюць кажаны ды гукаюць па начах совы, замест культурнага жыцця - цішыня. На выставе былі прадстаўлены літаратурныя творы, прысвечаныя Тадэвушу Рэйтану, або створаныя яго пляменнікамі - Станіславам Рэйтанам і Ганнай Герычовай з Рэйтанаў з прыватных збораў і кнігасховішчаў НББ.

Выстава была цікавай і насычанай, а галоўнае стала знакавай падзеяй. На мерапрыемстве прысутнічала творчая інтэлігенцыя, а таксама беларуская моладзь.

Трэба адзначыць добрую працу Арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана, што заснавана 18 красавіка 2013 года Змітром Юркевічам і Алесем Родзіным, якія робяць усебаковую папулярызацыю асобы нацыянальнага героя Беларусі!

*Аляксей Шалахоўскі,*
*Менск.*

# Несці людзям святло паэзіі…




Нядаўна выйшла ў свет другая кніга вершаў лідскага паэта Валерыя Мацулевіча - "Чалавек са свечкай" (нагадаем, першы яго зборнік, "Струны души", быў выдадзены тры з паловай гады назад, вясной 2011 года). Як і ў "Струнах души", у кнізе "Чалавек са свечкай" ёсць і рускамоўныя, і беларускамоўныя творы, а тэматыка кнігі таксама разнастайная. Да таго ж, у новым зборніку, акрамя вершаў, змешчаны так званыя "карацелькі", якія складаюцца ўсяго з двух-чатырох вершаваных радкоў, "бестолковый словарь", жартоўны раздзел "Вопрос - ответ" і крыху гумарыстычнай прозы. У доміку Таўлая адбылася прэзентацыя новай паэтычнай кнігі.

Аўтар зборніка адразу папярэдзіў прысутных, што свечка на чорным фоне на вокладцы кнігі не павінна асацыявацца ў чытача з чымсьці сумным і змрочным - яна сімвалізуе святло ў цемры і з'яўляецца як бы ілюстрацыяй да першага верша ў зборніку.

- Верш "Человек со свечой" (на рускай мове) навеяны роллю Алега Янкоўскага ў фільме "Ностальгия" (калі памятаеце, там ёсць эпізод, у якім выканаўца гэтай ролі ідзе і нясе запаленую свечку), - тлумачыць Валера. - Вобразы верша сімвалізуюць жыццёвы шлях чалавека, які нясе святло іншым людзям (у канкрэтным выпадку - паэта). "Человек со свечой" - белы, або свабодны, верш, што рэдка сустракаецца ў маёй творчасці.

Дарэчы, гэтаму вершу сугучны ўвесь першы раздзел Валерынай кнігі, які называецца "Свет во тьме". Святло ў цемры, па прызнанні аўтара, - ключавая тэма і ўсёй кнігі. І сапраўды, на яе старонках сустракаецца шмат трапных і яркіх сімвалаў святла. Гэта і сланечнікі, і пражэктар, і каляднае свята сярод суровай зімы, і светлячкі, якія "набліжаюць ранак" і г.д. Гумар таксама можна назваць святлом у цемры, а гумарыстычных твораў у зборніку нямала, ёсць у ім нават цэлы раздзел пад назвай "Юмор - наш бессмертный вождь!"

Варта крыху згадаць і пра іншыя раздзелы кнігі. Так, раздзел "Этот тревожный мир" нагадвае чытачу аб праблемах сучаснага свету: стыхійных бедствах і экалагічных катастрофах ("Воландов глобус"), тэрарызме ("Взрыв"), сіроцтве дзяцей пры жывых бацьках ("Дождливый силуэт"), жорсткасці ("Утопленный рассвет") і інш. У раздзеле "О природе, о погоде и немного о душе" чытач знойдзе яркія і незабыўныя вобразы восені-Мадонны, завірухі-снежнага барса, замка Зімы і інш. Раздзел "Жажда полета" прысвечаны рамантычным імкненням чалавека, якому "хоть изредка надо летать". У раздзелы "Нам ёсць патрэба ў прыгажосці" і "Нястрогія трыялеты" ўключаны беларускамоўныя вершы. Чытаючы іх, упэўніваешся, што творы аўтара на беларускай мове, як і на рускай, напісаныя на высокім мастацкім узроўні, вобразна багатыя, закранаюць самыя патаемныя струны душы і даюць шмат матэрыялу для роздуму.

Як ужо гаварылася вышэй, зборнік "Чалавек са свечкай" не вычэрпваецца толькі вершамі. "Карацелькі", "бестолковый словарь" і іншыя нетрадыцыйныя формы значна дапаўняюць гумарыстычную складаючую кнігі (асобныя "карацелькі", да таго ж - філасофскую).

- Больш за дзесяць гадоў назад Валера пачаў наведваць пасяджэнні літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", якім у той час кіраваў я, - гаворыць адзін са старэйшых лідскіх паэтаў Уладзімір Васько. - Ужо тады, па першай нізцы вершаў, якую ён мне прынёс (а Валера тады толькі пачынаў пісаць вершы), я заўважыў у ім таленавітага творцу. Галоўная думка ў яго праходзіць праз увесь верш, ад першага да апошняга радка, пры тым яна не перабіваецца і гармануе з эмацыянальным фонам твора, як бы сплаўленая з ім, чаго ўдаецца дасягнуць не кожнаму маладому аўтару. Ад кожнага верша Валеры атрымліваеш эстэтычную асалоду, у кожным прысутнічае гармонія пачуцця і думкі. А значыць, Валера Мацулевіч як паэт знаходзіцца на правільным шляху. Віншую яго з новай кнігай і жадаю далейшых творчых здабыткаў!

*Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 2.02.2015 г. у 17.00. Замова № 240.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 8750 руб., 3 мес.- 26250 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.